

Віншуем прафесара Струмілу ➔5

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Наша гісторыя ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 19 (3182) Год LXII

Беласток, 7 мая 2017 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Сустрэчы ў традыцыі

**У пачатку XXI стагоддзя Музей малой айчыны ў Студзіводах стаў арганізаваць міжнародны фестываль «Там по маёвуй росі», які пасля пераўтварыўся ў «Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі». Падчас абодвух мерапрыемстваў прэзентаваўся перш за ўсё неапрацаваны фальклор Падляшша і Палесся ды іншых раёнаў Беларусі. Удзельнікі сустрэч з традыцыйнай культурай у Студзіводах і ў вёсках Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў прэзентуюць нашы абрады, песні і даўнія танцы. XIV Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі пачаліся 22 красавіка ў мяшчанскай хаце Музея малой айчыны ў Студзіводах. Праходзілі там майстаркласы і адбылася прэзентацыя вясельнага абраду «Выезд маладой да шлюбу» перад вясельнікамі, якіх склала публіка. Маладыя танцавалі пад гукі народнай капэлы музея, якой кіруе сам Дарафей Фіёнік, старшыня Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» і галоўны арганізатар «Сустрэч у традыцыі».**



■ У выкуп сарочкі ўключыўся бацька маладой, у ролю якога ўвасобіўся Дарафей Фіёнік



■ «Жэмэрва» спявала агулькі каля вясковай хаты Студзіводскага музея. Першы справа Данілка Саўчук

Калі я ехаў на мерапрыемства ў Студзіводы, было холадна, дуў моцны вецер, а дождж барабаніў па аўтамабілі. У Студзіводах адразу засвяціла сонца, але пазней дождж прыйшоў таксама і ў гэтую частку Бельска. У вялікім пакоі мяшчанскага дома Студзіводскага музея яшчэ працягвалася падрыхтоўка да прэзентацыі абраду «Выезд маладой да шлюбу». Сцэнарый быў у руках Дарафея Фіёніка, які даваў апошнія парады самадзейнікам.

— Мне запрапанавалі ролю маладога і я згадзіўся. Я жыву ў Вілінаве Мельніцкай гміны. У «Жэмэрве» цяпер нас трох хлопцаў. Я прыязджаю ў Студзіводы на рэпетыцыі і адсюль мы ездзім на выступы. Я рады, што магу тут гаварыць па-свойму і выступаць перад публікай. Тут я пазнаёміўся з даўнімі песнямі, танцамі, — сказаў мне Данілка Саўчук з Вілінава, які раней, разам з іншымі членамі Студыі фальклору калектыву «Жэмэрва», згодна з традыцыяй першага святочнага тыдня Вялікадня, перад вясковай хатай Студзіводскага музея спяваў агулькі.

— Ад пачатку фестывалю «Там по маёвуй росі» адбывалася прэзентацыя вясельнага абраду. Цяперашні склад «Жэмэрвы» ўпершыню прымае ўдзел у паказе выезду маладой да шлюбу. Моладзь знаёміцца з даўнім вяселлем, ад чаго ў нашых дзяўчат і хлопцаў застануцца незабыўныя ўражанні, — сказала кіраўнік «Жэмэрвы» Анна Фіёнік.

Перад музейнай хатай Дарафей Фіёнік прывітаў Уладзіміра Весялоўскага, які ўвасобіўся ў ролю маршалка маладой. Раней на сапраўдных вяселлях многа разоў выконваў ён абавязкі маршалка і на гэты раз удала справіўся са сваёй задачай. На вяселле неспадзявана прыехалі члены тэатральнага гуртка Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, які ўзначальвае вядомая рэжысёр і акцёрка Іаанна Стэльмашук-Троц.

— Мы зараз рыхтуем на беларускай мове спектакль «Рамэа і Джульета», які будзе прэзентавацца на фоне беларускага фальклору. Прыехалі мы сюды, каб наша моладзь адчула атмасферу вясельнага абраду. А я сама хацела паслухаць народную капэлу Студзіводскага музея. Наша тэатральная група стварыла сваю капэлу, але не хапае нам бубнача, — заявіла Іаанна Стэльмашук-Троц.

Членам капэлы гайнаўскай тэатральнай групы Анне Бляўскай, Эве Кот і Яцку Дружбу вясельны абрад спадабаўся. У абрадзе ўдала спявалі дзяўчаткі з тэатральнага калектыву «Антракт», якія выступілі ў ролі вясковых дзетак, што прыйшлі на вяселле.

— Паказ вясельнага абраду важны для сабранай тут моладзі. Відаць, што маладых фальклор цікавіць, калі сюды прыбыла таксама моладзь з Гайнаўкі, — сказаў Тамаш Суліма са Студзіводскага музея, які выступіў у ролі старэйшага свата маладога.

— Нам цікавы традыцыі нашых продкаў. Сёння прымаем удзел у вясельным абрадзе, які паказвае гульні моладзі ў прошлым, — гаварылі дзяўчаты з «Жэмэрвы», якія ў спектаклі выконвалі розныя вясельныя абавязкі.

У вясельным спектаклі выконваліся даўнія вясельныя песні, запісаныя, між іншым Студыяй фальклору «Жэмэрвы». Кіраўнік калектыву Анна Фіёнік выступіла ў ролі мамы маладой, а Дарафей Фіёнік — у ролі яе бацькі. Моладзь, якая састаўляла сабраных у хаце вясельнікаў, асабліва была зацікаўлена канкрэтнымі момантамі абраду — адпраўленнем маладой да шлюбу, расплятаннем і заплятаннем касы маладой, якая сядзела на сімвалічнай дзежцы, благаславеннем дачкі бацькамі і таргаваннем старэйшага свата маладога падчас выкупу сарочкі. Малады (у яго ролі Данілка) прыехаў з сялянскай сям'і з Рагачоў да мяшчан у Студзіводы ўпэўніцца, што будзе жаніцца менавіта з той мяшчанкай, з якой спаткаўся толькі адзін раз, але выбраў яе сабе на жонку. Хаця на вяселлях звычайна галоўным завадатарам з'яўляецца маршалак, то тут быў ім бацька маладой — Дарафей Фіёнік, які час ад часу пазіраў на сцэнарый вясельнага абраду і падказваў, калі хто і што мае рабіць. Галоўныя акцёры намагаліся, каб паасобныя сцэнкі абраду як мага былі набліжанымі да колішняга вяселля. «Выезд маладой да шлюбу» атрымаўся ўдалым і быў цікавым не толькі для моладзі, але і для старэйшых мужчын, якія прыбылі сюды, каб успамінаць свае вяселлі.

— Калісь маладая вышывала сарочку для будучага мужа і рыхтавала прыданае, што забірала з сабой, калі выходзіла замуж. Доўгія размовы падчас выкупу сарочкі праходзілі з жартамі, каб моладзь сабраная ў маладой таксама добра гуляла, — патлумачыў Тамаш Суліма.

— По тварах моладзі відаць, што падабаецца ёй вясельны абрад выезду да шлюбу. Заўтра ў Рагачах пакажам больш поўны вясельны абрад. Удзельнікі «Жэмэрвы» хаця частку вясельнага абраду выкарысталі на сваіх вяселлях. Мы сёння хочам паказаць атмасферу вяселля і гульні моладзі ў мінулым, — сказаў Дарафей Фіёнік.

У абрадзе прымалі ўдзел дзеткі з Беларусі, якія спявалі вясельныя песні, а Кацярына Грынько выступіла ў ролі маладой.

— Я моцна хвалявалася і надалей застаюся пад вялікім уражаннем ад прэзентаванага абраду. Мне — 14 гадоў і я асабліва перажывала сваю ролю, — заявіла Кацярына Грынько, удзельніца народнага калектыву «Калыханка» Дома фальклору ў Міхановічах Мінскага раёна.

— Наш узорны фальклорны ансамбль «Калыханка» Міхановіцкага дома фальклору выконвае многа неапрацаваных фальклорных абрадавых песень, — сказала музычны і арганізацыйны кіраўнік «Калыханкі» Ларыса Рыжкова.

Вучні, што займаюцца ў ансамблі «Калыханка», былі рады прыезду ў Студзіводы. Спадабаўся ім вясельны абрад і жылі ўжо чарговым днём сустрэч, калі мелі пераехаць у Рагачы.

У асноўным фестываль «Там по маёвуй росі» праходзіў у Студзіводскім музеі. «Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі» выходзяць таксама ў розныя вёскі, падтрымліваючы традыцыі нашых продкаў, калі тыя хадзілі па сёлах і спявалі агулькі, а пасля іншыя веснавыя песні. У мінулым людзі прымалі валачобнікаў на сваіх панадворках або нават перад імі, седзячы на лавачках і слухаючы спевы. Студзіводскі музей аднаўляе гэтыя традыцыі. Самадзейнікі наведваюць вёскі з валачобнымі карагодамі і прэзентуюць фальклор для людзей, якія не даехалі б у Студзіводы. 23 красавіка Падляшска-Палескія сустрэчы адбываліся ў Мілейчыцкай гміне. Спачатку па Мядзвежыках вадзіўся карагод, а пасля ў тамашняй святліцы адбылася прэзентацыя вяселля. Удзельнікі сустрэч вадзілі таксама карагоды ў Левашах, тапілі Рагульку ў рацэ Нурчык, а ў Рагачах адбыліся вясельныя танцы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Сацыяльны заказ

Бывала і раней, што з помнікамі Леніну абыходзіліся не лепшым чынам. Але так як зараз, у адзін і той жа час і ў некалькіх месцах гэтыя сімвалы камунізму аблілі крывавай фарбай, гэта ўпершыню. І невыпадкова на розных медыйных пляцоўках стала вострa абмяркоўвацца гэтая тэма, бо ў сённяшняй Беларусі тыя манументы з'яўляюцца не толькі сімвалам савецкай эпохі, але ў нечым і сімвалам сённяшняй улады. Менавіта таму ўлада так нервова рэагуе на падобныя дзеянні і вельмі стараецца ўцяміць, а што ж гэта было насамрэч.

А насамрэч не адбылося анічога нечаканага. Сігнал ад грамадства, што на цэнтральных плошчах беларускіх гарадоў можна было б паставіць каго-небудзь больш беларускага, улада атрымала даўно. Але ўлада недаацаніла сур'ёзнасці гэтага сацыяльнага заказу. І не толькі гэтага, але і кожнага іншага, які зыходзіў з боку грамадства. І дарэмна.

Пра гэта сведчаць і спецыялісты, якія аналізавалі нядаўнія акцыі пратэсту. Яны са здзіўленнем адзначылі, што пасля разгону вулічных акцый сацыяльныя сеткі не выбухнулі чаканай актыўнасцю, а, наадварот, прыціхлі. З гэтага аналітыкі зрабілі выснову, што пратэсны настрой выльецца ў іншыя формы. І хіба не памыліліся. Абкрываўленыя помнікі Леніну лагічна падыходзяць на ролю першай ластаўкі.

Зараз хіба што ўпершыню за апошнія два дзясяткі гадоў і ўлада, і тыя хто пратэставаў дакладна ведаюць, што пратэсты на гэтым не скончыліся. Цяпер уладзе без вялікіх цяжкасцей удалося разагнаць удзельнікаў акцый, бо сілы там, на вуліцы, не роўныя. Улада змагла выпусціць добра экіпіраваных і натрэніраваных байцоў з адпаведнай маральна-псіхалагічнай і палітычнай падрыхтоўкай, якая ў дадатак падмацоўваецца някепскімі матэрыяльнымі ўзнагародамі. Выхад жа на вуліцу па другі бок ад шэрагу шчытоў мае нярадасныя наступствы — затрыманні, страчаная праца або вучоба, шалёны штраф, арышт, суд і так далей. І тым не менш гэты другі бок працягвае існаваць і шырыцца, бо ў беларусаў ужо сфармаваўся да ўлады шэраг сацыяльных заказаў. І калі ўлада не зразумела, што такія заказы проста неабходна ў той ці іншай ступені задавальняць, то гэта толькі ёй жа на шкоду, бо грамадскасць свой сацыяльны заказ адмяніць не можа. Няма такога механізма. Ён хоць у нейкай ступені мусіць быць выкананы.

А з усіх сацыяльных заказаў грамадства, якія ў Беларусі ўжо цвёрда сфармаваліся, улада ў „нейкай ступені" (прынамсі на словах), забяспечвае толькі адзін. Гэта суверэнітэт краіны. І то толькі таму, што гэта супадае з жаданнямі ўлады самой тут панаваць. Але нават і тут у грамадства да ўлады ёсць прэтэнзіі. Сацыяльны заказ на герб „Пагоня", бел-чырвона-белы сцяг і родную мову ўвесь час расце і ўжо набыў формы ўсенароднага. А ўлада не рэагуе на гэта аніяк. І гэта расцэньваецца грамадствам менавіта як удар па суверэнітэце.

Я ўжо не кажу пра іншыя сацыяльныя заказы, якія ў апошнія пяць гадоў не толькі ўзніклі, але і набылі лагічнае і асэнсаванае напаўненне. Гэта заказ на справядлівы суд, на справядлівую абарону, і, што самае галоўнае, на справядлівую ўладу.

На апошнім пункце хочацца крыху затрымацца падрабязней. Яшчэ нядаўна беларусы ў масе сваёй справядлівую ўладу не атаясамлялі са справядлівымі выбарамі, і таму скрозь пальцы глядзелі на выбарчыя фальсіфікацыі. Улада не выкарыстала гэты карт-бланш і не паспрабавала падняць планку справядлівасці хаця б у непалітычным жыцці грамадства і хоць крыху задаволіць сацыяльны заказ на справядлівасць. І цяпер грамадства ўжо патрабуе справядлівых выбараў. А гэта абазначае, што хутка мы ўбачым сяброў выбарчых камісій, якія масава будуць адмаўляцца падпісваць выніковы пратакол. І гэта ўжо будзе другая, або апошняя ластаўка. І калі з вуліц можна людзей разагнаць сілай, то як сілу прымяніць у падобных выпадках.

Дарэчы пра вуліцы. Калі не выконваюцца сацыяльныя заказы грамадства, то і на вуліцах людзей становіцца ўсё больш. І калі па другі бок ад шчытоў і дубінак будуць стаяць брат, сусед, або бацька таго, хто тыя дубінкі трымае, то тады неяк падрыхтоўкі байца з дубінкай губляе ўсялякае значэнне і ператвараецца ў дарма страчаны час і сродкі.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Ёсць як ёсць

Праблемы — якія б яны не былі — заўсёды ставяць чалавечы розум у стан трывогі. З гэтага часу ўсе яго намаганні накіраваны на тое, каб даць ім адпор. Як гэта ні парадаксальна, аднак, і ў большасці выпадкаў не ідзе пра гэта, каб іх творча вырашыць у кантэксце магчымых змен, якія яны, несумненна, пацягнуць за сабой, і творча адаптавацца да новых умоў, а пра тое, што гэтыя абставіны пакінуць у папярэднім і нязменным парадку. Прасцей кажучы: як правіла, не вырашаем праблемы, але іх рэгулярна ігнаруем. Нам не падабаецца, што нешта здзіўляе нас, змешваючы ўсталяваны парадак рэчаў. Штодзённасці, хоць ёй не лісліві, прыпісваем заслугу добра пражытага дня. Схематычнасць дзеянняў, абапіраючыся на ўстаноўленыя працэдуры, правілы, дазваляе нам меркаваць, што нязменная рэальнасць, у якой мы функцыянуем, нам падданая. Як да гэтага адносіцца наш буйны мозг?

Ну, нашаму мозгу мала трэба. Тузаецца ў нашым чэрапе як устрывожаная бяззубка *Anodonta anatina*, калі яму чаго-небудзь не хапае. Але дастаткова, каб паказытаць яму трохі малюсенькай прыемнасцю. Хай бы нават такой, што суседу здохла карова, а яго дачка не паступіла ва ўніверсітэт; хопіць яго трошкі падкарміць, саланінкай або цукерачкам, або піўцом або гарэлачкай і пра хвіліну пялёскаецца ў самалюбаванні, як бяззубка ў тлустым муле рачнога дна. Добра для мозгу тады, калі ёсць, як было. Нават калі магло б быць лепш, няма ніякай гарантыі, што, пагадзіўшыся на змены, не будзе горш. Гэта праўда, што многія з нашых мазгоў паказваюць цікаўнасць да таго, як гэта было б, але было б аднак, лепш, але... Гэта ўсё. Канчаткова нямногія з іх вырашылі перасекчы мяжу пасіўнай цікаўнасці. У вымярэнні чалавечай папуляцыі прыводзіць гэта да кансерватыўнага стаўлення грамадстваў, нацый. Агульнавядомая беларуская цярплівасць, нават паблажлівасць да іх прэзідэнта, які з'яўляецца крыніцай нацыянальнай фрустрацыі, пацвярджае тэзіс пра тое, што людзі не хочуць, каб вырашаць свае праблемы творча, і проста іх творча ігнаруюць. Гэта адносіцца не толькі да беларусаў. Гэта агульная чалавечая пакута. Тое ж самае адбываецца з палякамі. Яшчэ не прывыклі да «добрых» змен, якія прапанавала ім ПіС, а ўжо прывыклі не бачыць у іх сур'ёзных дэфектаў. У дзяржаўным ладзе, палітыцы, маралі... Несумненна, яны пацягнуць за сабой радыкальныя змены, якія ім сёння не ў галаве. Але заўтра, паслязаўтра неяк там будуць. Гэта з'яўляецца яшчэ адным доказам таго, што чалавек, замест вырашаць праблемы, якія ўзнікаюць, будзе замятаць іх пад дыван; замест таго, каб творча ўплываць на змену абставін, робіць усё, каб захаваць абставіны без змен. Спрабую паказаць гэта на прыкладзе Беларусі.

Постсавецкая ідэнтычнасць, такая несумяшчальная з духам беларушчыны, якую Аляксандр Лукашэнка ўдрукоўвае ад двух дзесяцігоддзяў у свядомасці сваіх суайчыннікаў, паступова становіцца рэальнасцю. Здавалася, што народ рэзка выступіць супраць, калі прэзідэнт патопча бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня ды выцягне з-за пазухі смярдзючыя нафталінам артэфакты савецкага паходжання. Ды дзе там! У абарону Курапатаў, урочышча пад Мінскам, дзе ляжаць ахвяры сталінскіх рэпрэсій, стала балюча меншая частка беларускага грамадства. Мелі пабудаваць там офісны комплекс. А трэба памятаць, што лік чалавечых цел, зваленых у курапацкія ямы, ацэньваецца ў чвэрць мільёна! Магілы беларусаў, яўрэяў, палякаў і прадстаўнікоў многіх іншых нацыянальнасцей былі адкрыты ў 1988 годзе. Пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі неаднаразова спрабавалі знішчыць сляды гэтага мнагамернага злачынства. Я не ведаю, ці не пры ціхім патуранні з боку часткі беларусаў. Таму што Курапаты з'яўляюцца вялікай праблемай. Магчыма, для многіх было б лепш, каб было так як было, пакуль былі адкрыты Курапаты. Але заўсёды ёсць як ёсць. Абставіны змяняюцца, незалежна ад нас. Нявырашаныя праблемы, з якіх ідуць далейшыя праблемы, выклікаюць змены ў адных і тых жа абставінах. Заўсёды ў горшы, а не ў лепшы бок.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# А мне сніцца матура

Заўсёды пры канцы красавіка абавязкова сняцца мне сны, якія нагадваюць, што прыйшоў час майскіх экзаменаў на атэстат сталасці. У мяне іх два гатункі. Змест першага з іх такі: ужо ў сталым узросце ўсім абавязкова прыходзіцца паўторна здаваць матуральныя экзамены, да таго паводле новага матуральнага ключа. Такую сітуацыю ў сне лічу крыўднай, бо ж у мяне на руках дыплом атрымання вышэйшай адукацыі, а тут трэба вяртацца да прадметаў перыяду майго юнацтва. А можа прыйдзецца пісаць яшчэ раз магістарскую дысертацыю? Ну, вядома, шмат зараз іншых абавязкаў і галава ўжо не так варыць. Аказваецца, што я зусім непадрыхтаваны да экзаменаў. Нават у сне баюся, што не спраўлюся з польскай і беларускай мовамі, бо не паспеў прачытаць усёй абавязковай літаратуры і засвоіць у дастатковай ступені граматычных правілаў. Калі прыходзяць вынікі і можна ўжо даведацца, колькі я атрымаў балаў па матуральных прадметах, менавіта тады прачынаюся. Зразумела, што ў такой сітуацыі застаюся надалей няўпэўненым у сваёй экзаменацыйнай паспяховасці. У другім гатунку сну мне напераменку — раз маладым, раз дарослым — прыходзіцца здаваць матуральны экзамен па матэматыцы і то ў пісьмовым і вусным выглядзе. Для мяне гэта ўжо не толькі абы-які выклік, але такі, які павышае раптоўна ўзровень адрэналіну, у выніку чаго ў сне напераменку становіцца мне і горача, і цёпла. І заўсёды спадарожнічае мне пачуццё роспачы і бездапаможнасці, калі думаю, як рашыць задачы, калі ты прамантачыў час на ўроках матэматыкі. Але амаль заўсёды сон завяршаецца пазітыўна: рашаю некаторыя задачы і атрымліваю пазітыўную ацэнку — тройку. Гэтая версія сну вельмі набліжана да той рэальнасці трыццацітрохгадовай даўнасці, калі я самастойнай, матуральнай тройкай па матэматыцы ганарыўся хіба нават мацней, чымсьці пяцёркамі па іншых прадметах. Гэта быў яшчэ той час, калі матура абазначала ўсё ж такі выклік і працавітую напружанасць. Ну і не ўсе пазітыўна яе здавалі, хаця экзаменатарамі на пісьмовай і вуснай частках экзаменаў былі свае настаўнікі, а не камісіі з іншых школ. Менавіта гэты асабісты прыклад, які зараз здзяйсняецца ў сонным прывідзе, пацвярджае словы, што матура была першым, вельмі важным жыццёвым экзаменам перад паступленнем у вышэйшыя навучальныя ўстановы. І калі пасля матуральных экзаменаў паўтара месяца пазней чакалі цябе чарговыя, нялёгкія выпрабаванні на ўступных экзаменах на выбраныя табою любімыя спецыяльнасці, то сапраўды дзевятнаццацігадоваму юнаку ўрэзваліся яны ў памяць на ўсё жыццё. Але ў адрозненні ад матуральных, мне ніколі не сніліся ўступныя экзамены ў ВНУ, ці тым больш студэнцкія экзаменацыйныя сесіі.

Згадаў менавіта я сваю матуру і сны, бо год таму назад прыйшлося мне перажываць матуральныя змаганні сваёй дачкі. Усю маю празмерную заклапочанасць дачка пракаментавала адным сказам : «Тату, ты матуру больш не перажываеш за мяне. То не твае часы». Ну, вядома, бацькі часам занадта бяруць у галаву адукацыйныя справы сваіх дзяцей. Але тая адукацыйная сістэма і патрабаванні, якія выпалі на долю маёй дачкі, гэта ў параўнанні з выклікамі маёй маладосці, мякка кажучы, недахоп часу на адукацыю. І гэта відавочнае, напрыклад, у пашыраных экзаменах па паасобных матуральных прадметах. Але ўсё, дзякуй Богу, добра закончылася. Аднак потым сутыкненне з патрабаваннямі ўніверсітэцкай адукацыі многім на першым курсе аказваецца часта выклікам, бо не ўмеюць проста сістэматычна вучыцца. Або ўвогуле вучыцца, — як сцвярджаюць мае сябры — універсітэцкія выкладчыкі розных спецыяльнасцей. Таму вяртанне да чатырохгадовага ліцэя і пяцігадовага тэхнікума лічу вельмі патрэбным для агульнага развіцця маладых людзей і ўзбуджэння ў іх умеласці думання ў катэгорыях абстрактнага мыслення, выяўленага і ва ў умеласці творчага пісання.

Таму ўсім сёлетнім матурыстам жадаю паспяховых вынікаў, якія завядуць іх на абраныя імі вышэйшыя навучальныя ўстановы. Час вашага экзаменацыйнага падсумавання прыпадае на самыя прыгожыя веснавыя хвіліны. Няхай сяброўства, завязанае ў сярэдніх школах, застанецца вам на ўсё жыццё. А да прыгожага чалавек заўсёды вяртаецца ва ўспамінах. І заўсёды вяртаецца да роднага. Хай шчасціць вам усім!

**Яўген ВАПА**

Пад царквой чую, як бабулькі перашэптваюцца, дзе ўзяць добрую апякунку. Каб сваю, вядома, праваслаўную, — кажа Люба Галубоўская, якая прыехала з Піцера да сваёй цёці Веры. Вера Бейкер (1925 года нараджэння) — адна з сясцёр пакойнага таты Любы, сястра Ніны Цімохавай (1927 г. нар.), што жыве ў Казахстане.

# Чорная Надзея

Цёця Вера — беластачанка, па чацвёртым мужу-байкеры, праўда, які памёр ужо пасля іхняга разводу. Красун быў, перахапіў быў Веру з Варшавы, дзе мела бізнес. Расіянка Вера, падобная да славутай мадэлі Твігі, пасля вяртання з прымусовых работ у Нямеччыне, рашыла застацца ў Польшчы, тады і выйшла была першы раз замуж. Прыгажуня і някепская эканамістка, хутка развівала свае інтарэсы ў галіне турызму, і на пенсію пайшла як уласніца аднаго з большых турыстычных бюро ў краіне. Заўсёды свабодная дама, свецкая львіца, багатая і культурная, з мноствам сяброў, ашчаднасці свайго жыцця ўклала ў імпазантную кватэру ў сучасным мікраранёне Беластока, у ахоўванай зоне, з гаражом пад будынкам на аўто. Інтэр'ер вялізнай кватэры запоўнілі «антыкі» і густоўная італьянская мэбля. Вера на пенсіі запрашала да сябе сяброўак, цешылася жыццём.

На здароўе не наракала, але ж, вядома, у дзевяноста гадоў яно не найлепшае, нават калі ты жвавая, энергічная старушачка. І калі апынулася ў двары, куды ўвойдзеш толькі па кодзе, стаў яе агортваць страх: а што будзе, калі хтосьці паквапіцца на тое, што яна нажыла за ўсё жыццё? Часам прачыналася Вера, якую даўно ўжо звалі Вэрай, сярод чужых людзей, што купілі побач свае кватэры, — не давярала ні замкам, ні кодам: быццам чула галасы крадучыхся зладзеяў, тупат ворагаў... Ну, і цяжкавата было заняцца такім вялікім домам.

Дарэчы, Вера звыклася з тым, што мела дома гаспадыньку — кухарку, прыбіральшчыцу. І падказалі ёй, якраз пад царквой, што ёсць добрая апякунка, надзейная, наша — Надзея Кляшчэлеўская, былы педагог... Тая Надзея праверaная асоба — апякуецца не адным старэчам, і прыбярэ, і пакупкі зробіць, і лякарствы прынясе... Працавала яна была ў педагагічнай ваяводскай установе, была важнай асобай, хаця студыяў не кончыла, але бывала ў розных камісіях, якія вырашалі пра важныя настаўніцкія справы... Можна сказаць, Надзея — дыпламаваная апякунка. Разведзеная, двух сыноў мае, адзін — цэлаахоўнік, таксама надзейны чалавек. Паралася Вера з пляменніцай былога мужа, прафесаркай-медыкам Беатай — тая добра ведала тую Надзею і адобрыла выбар, тым больш, што апякунка жыла блізка, на суседняй вуліцы, праз два дамы...

Стала займацца домам і гаспадыняй пані Надзея, за 800 злотых у месяц. Праўда, сама пенсіянерка, забягала да суседкі пасля доўгага працоўнага апякунскага дня, даведзеная да знямогі. Налівала гаспадыні суп са слоіка, што купіла ў бары, абмахвала пыл. Калі не мела часу, прысылала сваю нявестку, якая сядзела ў пані Веры нават і пяць гадзін — па 20 злотых у гадзіну, — чым даўжэй тым лепш. Кожныя тры месяцы прыязджала з Піцера Верына пляменніца — Люба, якая рабіла вялікую ўборку ў цёцінай хаце. Спявала тады Люба, журналістка і спявачка, і ў хоры Свята-Духаўскага сабора. Цёця апісала палову дома на яе — яна ж была яе адзінай спадчынніцай, разам з Верынай сястрой Нінай, што дажывае сваіх гадоў у Казахстане. Праўда, Ніна і яе патомкі ўжо і не спадзяваліся, што штосьці дастанецца ім у спадчыну ад багатай пляменніцы з Польшчы.

— Прывозіла я гасцінцы таксама апякунцы Надзеі, — успамінае Люба. — Была ёй вельмі ўдзячная, што прыходзіць да яе такая надзейная, прытым праваслаўная апякунка. Праўда, цёця стала паводзіць сябе дзіўна, была нейкая заپалоханая. У новы яе дом не пускалі яе сяброў! Апякунка забараніла гаспадыні адказваць на тэлефоны, а нават падымаць трубку. Прафесар Беата прыпісвала дзядзіне лякарствы на лепшы сон. Лекі бабулі забараніла прымаць самой. Урэшце Беата намовіла дзядзіну, каб ад удзячнасці перапісала на добрую апякунку гараж з машынай. Натарыус перапісала маёмасць на суседку — ёй машына была патрэбная, каб аб'ездзіць усіх ейных падапечных...



■ Сямейныя «пячаткі» на руках Любы Галубоўскай

У студзені 2017 г. Люба прыехала да цёці праз больш працяглы час — год паміраў яе муж, ад хваробы сляпы і глухі, і не магла яна часта наведваць сваячку. Цёця пераляканая тулілася да сцяны.

— Любанька, я не ведаю, чаму ў мяне няма ніякіх папераў на маю маёмасць, — прашаптала гаспадыня, азіраючыся на дзверы. — Але ўсё ведае Беата. Ты ёй пазвані, добра? Ой, як добра, што ты прыехала, бо нікога да мяне не пускаюць. Толькі Ірка да мяне заглядае, суседка. Я ўжо і на двор не выходжу, нават у агарод, што вакол нашай хаты. Так хочацца, каб людзі зноў да мяне прыходзілі... Ты вазьмі крэдытную картачку, схадзі, зрабі пакупкі... Бо мне ўжо надаела есці адно той супок...

Не было ані залатоўкі на банкавай карце, на якую пані Вера штомесяц атрымлівала па 2 600 злотых.

— Ай, то ж Надзенька аплачвае ўсе мае рахункі. Ну, за маю палавіну, бо ж ты плаціш за сваю, хоць тут не жывеш. Але я хачу, каб было як раней!

— Што «раней»? — не разумела Люба. Стала ясна, калі паявілася яна ў Гарадской управе, каб заплаціць падатак за сваю палову цётчынага дома. Ужо не яна была саўласніцай кватэры Веры Бейкер, а Надзея Кляшчэлеўская.

Кватэра Веры Бейкер была перапісана натарыусам — ужо іншым чым раней — як «пажыццёвы дар» на апякунку. Той акт убачыла Люба толькі пры наступным візіце ў цёці, пасля скандалу, які ўчыніла апякунка. Да акту быў далучаны абавязковы квіточак — пра тое, што дабрачынніца з'яўляецца пры сваім розуме. Да абавязкаў адоранай маёмасцю нажытай за ўсё доўгае жыццё чужой асобы было поўнае ўтрымліванне дабрачынцы — аплачванне кватэры, ежы, адзення, поўнае дбанне пра яе дабро. Але апякунка ўсё аплачвала з пенсіі свае дабрачынцы, і таму раз'ятрылася на тое, што бабуля пры дапамозе суседкі Ірэны задбала, каб пенсію стаў да яе прыносіць пісьманосец.

— А з чаго я маю ёй плаціць?! — кіпела апякунка. — Яна мае пенсію 2600 злотых, а я толькі 1600! Якім правам яна змяніла рашэнне аб выплаце пенсіі праз банк! Гэта ты яе падбухторыла, Любка! А хата мая! А ты, Любка — якая ты сваячка! Прыязджаеш раз на квартал, а тут займацца штодзень трэба гэтай старой недарэкай! Яшчэ хоча, каб сяброўачкі тут яе лазілі! Я не жадаю такога!

— Гэта ж яе дом! — пярэчыла Люба, якой удалося ўсё ж заспець апякунку ў цётчынай кватэры (тая пільнавалася, каб не нарвацца на госцю). — Цёця хоча, каб было як раней. Яна ж нажыла гэты дом, і тое што ў доме, за сваё доўгае жыццё.

— Ты тут ні пры чым! Ты чужаземка! Я падсялю сюды майго сына з сям'ёй. Замкі змяню. А пра падзел гэтага дома будзем гаварыць толькі пасля смерці тваёй цёткі! Вы там у Піцеры багатыя!

— Ты маіх грошай не лічы! Дык я цётку магу ў Піцер забяру, яна хоча, каб я яе пры сястры пахавала. А калі яе забяру, дык і тваё апякунства не будзе мець рацыі...

Гэтак не будзе, куды б не дзелася бабуля Вера Бейкер, хай жыве яна і сто гадоў. Натарыяльным актам яе прыбіральшчыца стала ўласніцай паловы яе дома, гаража, машыны. Люба Галубоўская паехала дадому ў Піцер. Штомесяц плаціць яна чынш за сваю палову дома. Не ўпільнуе моманту, калі апякунка ўвядзе сваю радню (а шукае яе каморнік) на пакоі жывой гаспадыні. Ці можна неяк дамовіцца наконт падзелу маёмасці? Люба не хоча нерваваць свае сваячкі і гутарыць пры ёй на гэтую тэму.

— Ты не маеш тут ніякіх правоў! Якая ты там сваячка! Што гэта твая родная цётка? — разрагаталася прафесар Беата, сяброўка «апякункі». — Ты сядзі ў сваёй Расіі і носа не высоўвай.

— Як ты дазволіла так яе абмануць? Гэта ж ты ўсё гэта накруціла! Аддала цёцю Веру ў рукі чужога чалавека!

— Адчапіся ад мяне ты, гэта ваша сямейная справа! — крыкнула вядомая пані прафесар з Беластока і прыпячатала свае словы, убіўшы свае памаляваныя кіпці ў плячо Любы-журналісткі з Піцера ды піхнула яе на дзверы.

Люба Галубоўская на другі дзень апынулася на скорай дапамозе па вуліцы Палескай у Беластоку з гіпертанічным крызам і страсеннем мазгоў. І паехала ў той свой Піцер, бо ж там мае свае справы. Ці забраць ёй цёцю за мяжу, пакінуўшы яе жыццёвыя здабыткі прагнай «чорнай апякунцы»? Цікава, колькі яшчэ старэчаў у Беластоку ад удзячнасці абдаравала Нядзею Кляшчэлеўскую тым, што маюць самае добрае, апрача добрага сэрца?

*Імёны герояў зменены і падабенствы сітуацыі выпадковае.*

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Ахова асяроддзя ў Арлянскай гміне

**На сесіі арлянскай Гміннай рады 31 сакавіка г.г. радным быў прадстаўлены рапарт пра рэалізацыю ў 2015-2016 гг. Праграмы аховы асяроддзя.**

Гміна складае рапарты кожныя два гады, якія падсумоўваюць праведзеныя мерапрыемствы і дасягнутыя прадбачаныя праграмай мэты.

Галоўнай доўгатэрміновай мэтай з'яўляецца прадаўжэнне дзеянняў, накіраваных на паляпшэнне якасці паветра. Праграма ўскладвае на гміну рэалізацыю папраўчых дзеянняў: развіццё сеткі веладарожак і веласіпеднай інфраструктуры, экалагічную адукацыю, абмежаванне выкідаў пылу, падмену старых катлоў і тэрмамадэрнізацыю будынкаў (у 2015 годзе такую мадэрнізацыю праведзена ў пажарным дэпо, у плане — будынак Гміннай управы). З мэтай абмежавання запылення перабудаваны былі гмінныя дарогі і суфінансавана перабудова павятовых дарог на тэрыторыі гміны.

Дзеянні ў галіне воднай гаспадаркі маюць доўгатэрміновай мэтай дасягненне і ўтрыманне добрага стану верхавых вод, ахову якасці падземных вод і рацыяналізацыю іх выкарыстання.

У 2015 годзе была пабудавана новая ачышчальня сцёкаў у Дыдулях запар з каналізацыйнай паўкіламетровай сеткай, якая ахоплівае шматсямейныя жылыя будынкі ў Дыдулях; яе сярэдняя прадукцыйнасць 15 кубічных метраў у суткі.

У 2016 годзе апрацавана дакументацыя разбудовы водазабораў у Орлі і Алекшах, а таксама водаправоднай лініі па вуліцы Партызанаў. Апрацавана таксама дакументацыя перабудовы і разбудовы ачышчальні сцёкаў у Орлі.

На дзень 31 снежня 2016 года, карыстаючыся дафінансаваннем з гміннага бюджэту, пабудавана 36 каляхатніх ачышчальняў сцёкаў (усіх у гміне 38).

Дзеля аховы грунтавых вод сяляне будуюць гнойныя пліты і ўмяшчальнікі на гнаёўку; гміна не мае ўліку зрэалізаваных інвестыцый. Умовы атрымання еўрасаюзных даплат абавязваюць землеробаў прымяняць Кодэкс добрай сельскагаспадарчай практыкі і рацыянальных рашэнняў. У мінулым бывала так, што буйныя гаспадары вывозілі гнаёўку ў поле, адразу не прыворваючы яе, ад чаго раздаваўся па наваколлі дакучлівы смурод.




Мэтай мерапрыемстваў у галіне аховы прыроды і краявіду з'яўляецца адраджэнне і збалансаванае карыстанне біялагічнай разнароднасцю. Умовы захавання гэтай разнароднасці і аховы прыродных ачагаў акрэсліваюцца пастановамі войта для кожнай рэалізаванай у гміне інвестыцыі.

У 2015-2016 гг. дадзена 40 дазволаў на высечку дрэў, загадваючы кампенсуючыя пасадкі. З 1 студзеня, у выніку змены закона, дазвол на высечку не патрабуецца. Як я здолеў заўважыць і апытаць людзей, то ў Арлянскай гміне не было нейкіх масавых высечак дрэў пад магчымыя будаўнічыя ўчасткі. У самой Орлі з пачаткам года гаспадары высеклі па адной да некалькіх штук шыпулькавых дрэў, якія празмерна выраслі, наводзілі празмерны цень на панадворак, сваімі буйнеючымі каранямі пагражалі падмуркам, а ў выпадку ўрагану маглі небяспечна павaліцца. Гэтых гаспадароў новы закон зматываваў да высечкі. Да таго ж людзі старэюць і ім цяжка восенню заграбаць лістоўе...

Апусцела цяпер не толькі каля дамоў. Ужо восенню Павятовая ўправа дарог высекла ўсе тапалі абапал павятовай дарогі з Орлі ў Шчыты; некалькі гадоў таму аголена была з дрэў павятовая дарога з Орлі ў Бельск. У вачах людзей такая дарога выглядае вельмі дзіўна, пуста — як у стэпе.

Гмінная ўправа задбала таксама і пра выгляд арлянскіх вуліц. У сакавіку ўсе растучыя па вуліцах ліпы аголены з голля; зараз тыя ліпы выглядаюць як куксы, але ўжо летам вернуць свае зялёныя кроны. Бывае, на жаль, што вулічным дрэвам наканаваны нечаканы трагічны канец. Вось нядаўна ў Орлі на вуліцы Бельскай здарыўся дарожны выпадак, дзе маршрутка, у выніку занядужання шафёра, зваліла з каранямі тры тоўстыя ліпы; абышлося без ахвяр у людзях.

У 2015 годзе тэрытарыяльныя аддзелы Агенцтва развіцця і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі прымалі заяўкі на дафінансаванне аблясення і стварання зялёных участкаў. Ды прырода і сама наводзіць свае парадкі. Два буйныя ўчасткі пашы ў Орлі, на якіх яшчэ дваццаць гадоў таму пасвіліся статкі кароў, сёння пачынаюць зарастаць самасейным лесам — бярозай, вярбой, сасною.

Памяняліся таксама і некаторыя прыватныя лясы каля Орлі, некаторыя ўладальнікі абгарадзілі іх сталёвай агароджай. Лясы дзічэюць! Даўней заходзілі туды людзі, прагульвалася моладзь. Лес быў з пралётамі, пратаптаны, а сёння лясы зарастаюць кустамі і маладняком, быццам дзіч.

У 2016 годзе чаргoвы раз збіралі для ўтылізацыі матэрыялы, у якіх азбест — пры фінансавай падтрымцы прыродаахоўных органаў. У выніку адабрана і абясшкоджана было звыш ста тон матэрыялаў з азбестам.

Усе хатнія гаспадаркі маюць умяшчальнікі на сухія і мокрыя адкіды. У Комплексе школ ёсць пункт прыёму зрасходаваных батарэек (у 2015 годзе сабрана 318 кілаграмаў, у 2016 — 120) і макулатуры (у 2015 годзе сабрана дзве тоны, а ў 2016 годзе — 1700 кілаграмаў). У арлянскай аптэцы ёсць умяшчальнік для збору пазатэрміновых лекаў. Раз у год ладзіцца збор праблемных адкідаў (буйных па памерах, аўташын, тары з-пад хімікатаў і т.п.).

Жыхарам вядомыя прынцыпы правільнага гаспадарання адкідамі ды веды пра пагрозу ад спальвання іх у хатніх печах. Аднак жыццё паказвае, што нягледзячы на адукацыю і наяўнасць умяшчальнікаў, амаль пры кожнай вёсцы маецца дзікая звалка. Надзея ў маладым пакаленні, што яно будзе правільна абыходзіцца з адкідамі.

У арлянскім Комплексе школ рэалізуюцца шматлікія экалагічныя праграмы, напрыклад штогадовы конкурс «Збіраем смецце цягам цэлага года» — збор батарэек, накрутак, макулатуры. А на ўроках прыроды і біялогіі вывучаюцца пытанні экалагічнай адукацыі.

# Асяроддзе і прыродныя фонды Арлянскай гміны

**Лясы**

У Арлянскай гміне лясы займаюць 2260,41 гектара, што складае 14,1% плошчы гміны. Невялікая лясістасць гэта вынік наяўнасці высакаякасных зямель прыгодных для сельскагаспадарчай вытворчасці. 98 гектараў займаюць лясы ахоўнага характару.

У гміне пераважаюць шыпулькавыя лясы, асабліва многа сасны. Узрост дрэвастою розны, аднак найбольш тут маладога лесу. Вялікіх суцэльных лясных комплексаў на тэрыторыі гміны няма. Буйнейшыя лясы размешчаны каля вёсак Шчыты-Навадворы, Рудуты, Малінікі, Рыгораўцы і Вулька-Выганоўская. Яны растуць на падмоклых грунтах лясных далін і на менш ураджайных глебах.

Апрача шыпулькавых дрэў на тэрыторыі гміны растуць таксама ліставыя дрэвы, у іх ліку бяроза і вярба. Апошнія пароды растуць паблізу сенажацей і паш. У сырэйшых месцах расце чаротавая і асаковая расліннасць.

**Фаўна**

У ліку звяры, насяляючай лясы Арлянскай гміны, можна вылучыць сарны, алені, дзікі, лісы, ласі і куніцы. Падмоклыя грунты засяляюць балотныя і лясныя птушкі, у іх ліку лунь паплаўны, драч, грыцук вялікі і цецярук.

Сем гадоў таму пачуліся ў нас галасы некаторых жыхароў, што пасля ўстанаўлення ветракоў не пабачым у наваколлі Орлі птушак, але гэтыя апасенні пакуль не апраўдаліся.

Па тэрыторыі гміны пралягаюць міграцыйныя калідоры птушак і іншай звярыны з Белавежскай пушчы. Зуброў можна часам пабачыць за Орляй з боку Рудутаў. Некаторыя сяляне звяртаюць увагу, што калі палямі пройдзе туды і назад статак зуброў, то прычыненых імі страт ніхто не кампенсуе.

**Прыродныя і ландшафтныя каштоўнасці**

На тэрыторыі Арлянскай гміны высокія ландшафтныя каштоўнасці мае даліна верхняга Нурца. На тэрыторыі гміны на прыватнай маёмасці ў Паўлінове растуць два дубы, устаноўленыя ў 1987 годзе помнікамі прыроды: адзін акружнасцю ў 410 сантыметраў і вышынёй у 24 метры і другі — 345 см і 22 метры.

На тэрыторыі гміны растуць і іншыя буйныя дрэвы не занесеныя ў спіс помнікаў, напрыклад вялікі дуб перад комплексам школ у Орлі, а ў г.зв. старым садзе ў Орлі — вялікая ліпа і некалькі каштанаў. Я, як радны, некалькі гадоў таму хадайнічаў, каб і яны трапілі пад кансерватарскі нагляд, аднак беспаспяхова.

**Абшары НАТУРА-2000**

НАТУРА-2000 з'яўляецца наборам ахоўных абшараў на тэрыторыі краін Еўрасаюза. Мэтай вылучэння гэтых абшараў з'яўляецца ахова каштоўных у прыродным сэнсе і, апынуўшыхся пад пагрозай, кампанентаў біялагічнай разнастайнасці ў членскіх краінах Еўрасаюза.

На тэрыторыі Арлянскай гміны ёсць два абшары, ахопленыя наборам НАТУРА-2000:

- абшар асаблівай аховы птушак у даліне верхняга Нурца, плошчаю амаль у чатыры тысячы гектараў на тэрыторыі Кляшчэлеўскай, Боцькаўскай і Арлянскай гмін. На гэтым абшары гняздуюцца лунь паплаўны (9-18 пар), драч (206-229 самцоў) і грыцук вялікі (13-31 пара). Гэта таксама адно з апошніх у нізіннай частцы Польшчы месцаў гнездавання цецерука (8 самцоў). Тэрыторыя даліны з'яўляецца фрагментам экалагічнага калідора для міграцыі птушак і млекакормячых з тэрыторыі Белавежскай пушчы.
- устой у даліне верхняга Нурца, плошчаю ў 5524 гектары — спецыяльны ахоўны абшар біятопаў, вылучаны рашэннем Еўракамісіі. Абшар ахоплівае невялікія лясныя комплексы надлясніцтваў Бельск і Нурэц. Каля 75% арэалу займаюць лугі і пашы, большасць з якіх выкошваецца раз або два ў сезон; часам адбываецца выпас. Каля 15% тэрыторыі не ўжываецца або ўжываецца нерэгулярна і абрастае крапівой ды дрэвастоем. 3% даліны займае асаковая і трысняговая расліннасць. Лясы займаюць каля 5% — гэта алёсы і мешаныя сырыя бары; найстарэйшым алёсам пад сто гадоў.

Каштоўным дапаўненнем ландшафту даліны з'яўляюцца раслінныя згусткі, якія займаюць узвышэнні пасярод гідрагенных грунтаў, а таксама мінеральныя ўстоі на краях даліны: муравы і верасніcкі. У іх складзе ўнікальныя пароды эндэмічных раслін.

**Сетка ECONET-PL**

Сетка ECONET-PL ахоплівае 46% плошчы нашай краіны. Складаюць яе вузлавыя абшары і спалучаючыя іх экалагічныя калідоры. Агулам вылучана 78 вузлавых абшараў (46 міжнародных і 32 краёвыя, якія разам ахопліваюць 31% плошчы краіны) ды 110 экалагічных калідораў (38 міжнародных і 72 краёвыя — 15% плошчы краіны).

Арлянская гміна размешчана ў абсягу паўночна-цэнтральнага экалагічнага калідора, аднаго з сямі галоўных у краіне. Арлянская гміна знаходзіцца ў межах функцыянальнага абшару «Зялёныя лёгкія Польшчы» паміж вузлавымі абшарамі міжнароднага значэння: абшарам даліны верхняй Нарвы, абшарам даліны ніжняга Буга і абшарам Белавежскай пушчы. Гэтыя абшары дапоўненыя экалагічнымі калідорамі краёвага рангу, адзін з якіх праходзіць даліной верхняга Нурца, ахопліваючы вобрубы вёсак Паўлінова, Чахі-Забалотныя і Вулька-Выганоўская.

Сетка ECONET-PL ахоплівае таксама нацыянальныя і ландшафтныя паркі ды рэзерваты і прыродныя ўстоі CORINE. Большасць экалагічных калідораў асацыявана з рачнымі далінамі.



# Прафесар Андрэй Струміла ў творчым юбілеі

**Быў амаль усюды: захапляўся арыентальнай Японіяй, заваёўваў пікі ў Гімалаях, пешшу падарожнічаў праз дзікую Сібір, жыў на Манхэтэне, але ўсё-такі асеў на тэрыторыі даўняга Вялікага Княства Літоўскага. Сёння прафесар Андрэй Струміла жыве ў Мацькавай Рудзе, што на Сувальшчыне і надалей стварае: малюе, рысуе, фатаграфуе... не абмяжоўваецца да аднаго жанру мастацтва, так як пасля вайны навучыў яго Уладзіслаў Стамінскі.**

### Струміла — студэнт незалежны і непакорлівы

Андрэй Струміла з'яўляецца мастаком незвычайнай, і здаецца, невычэрпнай фантазіі. У час сустрэчы ў беластоцкім Драматычным тэатры, якая прайшла 20 красавіка ў рамках святкавання 90-годдзя з дня нараджэння мастака, прафесар падкрэсліў, што на ягоную творчасць вялікі ўплыў меў Уладзіслаў Стамінскі. Стамінскі і ягоная жонка Кацярына Кобра лічацца аднымі з самых авангардных мастакоў XX стагоддзя. Менавіта ад майстэрні Стамінскага ўсё пачалося. Андрэй Струміла, тады яшчэ не прафесар, а толькі хлопец з Усходу, народжаны ў Вільні ў 1927 годзе, хацеў вывучаць гісторыю мастацтва. Адначасова ў Лодзі адкрывалася Дзяржаўная вышэйшая школа выяўленчых мастацтваў. Вырашыў паступіць туды і так стаў студэнтам — вучнем выдатнага мастака Стамінскага. Струміла з павагай ставіўся да сваіх прафесараў, захапляўся іхнім вопытам і ведамі, аднак не быў некрытычна ў іх загледжаны.

— Для мяне тэорыі Стамінскага былі вельмі атракцыйнымі, але ўсё-такі я быў асцярожны, — расказваў прафесар. — Я быў студэнтам самастойным, незалежным і непакорлівым. Я цаніў сваіх прафесараў, але ішоў уласнай дарогай.

Калі гаварыць аб мастацтве, Андрэй Струміла паспрабаваў амаль усяго: ствараў эскізы са шматлікіх падарожжаў, шматфарматныя вобразы, займаўся разьбой па камені, праектаваў сцэнічнае афармленне для тэатраў і опер, рабіў графіку, шмат гадоў фатаграфаваў... Прытым усім не паспрабаваў аднаго — не прыняў галоўнай ролі ў спектаклі Анджэя Вайды, хаця той шчыра яго намаўляў. Усё-такі гадамі маглі разлічваць на сябе. Славуты рэжысёр менавіта ў Струмілы раіўся наконт свайго фільма пра Уладзіслава Стамінскага «Павідокі».

### Вялікі настаўнік прафесара Струмілы

Сустрэчу з прафесарам Андрэем Струмілам у Драматычным тэатры вёў Конрад Шчэбёт. Аднак і публіцы можна было таксама ўключацца ў дыскусію. Дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Анатоль Вап цікавіўся сувяззю паміж Струмілам і Уладзіславам Стамінскім. Дапытваўся, ці блізкасць паміж вучнем і настаўнікам гэта таксама ўплыў беларускага паходжання абодвух мастакоў.

— Стамінскі прыехаў як наіўны, га, ён не быў наіўны, паколькі ўцёк з Расіі, — адказаў прафесар. — Можа больш, як перакананы чалавек лявіцы. Арганізаваў першую групу мастакоў і арганізаваў першую выстаўку авангарду, якую атаясамліваў з левым рухам. Стамінскі ў час вайны апынуўся ў Лодзі са сваёй жонкай Кацярынай Кобра. Яна была праваслаўная, паходзіла з Інфлянтаў. Немцы, маючы на ўвазе праваслаўе Кацярыны Кобра і мінскае паходжанне Стамінскага, запісалі іх, а яны на гэта пагадзіліся, як беларусаў. Пасля вызвалення Лодзі гэта выклікала абурэнне мастацкага асяроддзя. Здраднік народу, мастак-беларус, мастак-жыдакамуны і г.д. Ён падвяргаўся праследу, быў знішчаны асяроддзем. Я аб усім ведаў і спачуваў яму.

Прысутныя на сустрэчы з Андрэем Струмілам, ці асобы, якія яго ведаюць, ніколі не папракнулі б яго ў дэменцыі. Сам выпраўляў невялікія факталагічныя памылкі вядучаму сустрэчу. Усё-такі ва ўсіх звестках пра Стамінскага і ягоную жонку Кацярыну Кобра гаворыцца, што запісаліся яны расіянамі, а не так як кажа прафесар, беларусамі. І хаця і ў адным, і ў другім выпадку мелі б тыя ж самыя праблемы, пытаннем застаецца ці надалей для палякаў цяжка зразумець, што існуе такая нацыя як беларусы.

### Быць духоўным грамадзянінам ВКЛ — быць беларусам

— Заўсёды быў са мною элемент рамантызму і рэфлексіі, — сказаў Андрэй Струміла. — Вялікае Княства Літоўскае гэта бацькаўшчына маіх продкаў, маёй цэлай сям'і. У час размовы з Чэславам Мілашам узнікла думка, каб выдаць кнігу пра ВКЛ. Яна выйшла. Аднак у Польшчы маюць яе нешматлікія. На нашу думку ВКЛ было лабараторнай спробай суіснавання народаў — актуальнай і сёння ў кантэксце аб'яднанай Еўропы. Мы гэту кнігу прысвяцілі Ежы Гедройцу.

Кнігу пра ВКЛ, з вялікім крыжам Ягайлы на вокладцы Струміла з гонарам прэзентаваў у час сустрэчы ў Драматычным тэатры ў Беластоку. У ёй знаходзяцца тэксты выдатных беларускіх, літоўскіх і польскіх гісторыкаў — у тым ліку Алега Латышонка ці Уладзіміра Арлова. Рэдакцыя «Нівы» з'яўляецца адным з нешматлікіх уласнікаў гэтай вялікай анталогіі.

Андрэй Струміла не выглядае на свае 90 гадоў. У час сустрэчы ў Драматычным тэатры захапляў малодшых ад сябе гледачоў сваімі рэфлексіямі, жартамі... Струміла, калі пачуе беларускую мову, як гаворыць, мову сваёй духоўнай дзяржавы, заўсёды адкажа па-беларуску і з вялікім узрушэннем.

— Зямля менская, Менск — гэта Бацькаўшчына майго бацькі, дзеда, — сказаў прафесар. — І я сам жыў у Беларусі ў ваенны час. Там шмат у мяне сяброў. І гутарка беларуская, беларуская мова мне вельмі блізкая па сэрцы. Галоўная праблема беларускай культуры сёння — гэта пытанне мовы.

Сёння прафесар крыху наракае, што, на жаль, рэдка здараецца яму знайсці беларускага суразмоўца. Тым не менш Струміла, як прыстоіць авангарднаму мастаку, у жыцці правакуе. Запрошаны на даклад у Менскую мастацкую акадэмію, нягледзячы на расійскамоўныя запрашэнне і план мерапрыемства, сваім выступленнем лёгка шакіраваў публічнасць. Нікому нічога не гаворачы, выйшаў перад поўную залу студэнтаў, людзей мастацтва і «культуры» з беларускамоўным дакладам. Паніжаючы тон, прафесар Струміла дадаў: «Былі вельмі здзіўлены, але ніхто не адважыўся, каб падысці да мяне і звярнуць увагу. Напэўна, беручы пад увагу ўзрост і досвед. Нават былі такія, якія пасля даклада дзякавалі за мову». Чуючы нізкі тэмбр голасу прафесара і веданне мовы — яго выказванні па-беларуску гэта асалода. Сам Андрэй Струміла падкрэслівае, што не хапае яму практыкі, таму даклад меў раней перакладзены і прачытаны, каб зрабіць добрае ўражанне сваім «авангардным выступленнем». Магчыма, што гэтае выступленне можна нават назваць перформансам? Гэта была б чарговая дзялянка мастацтва, якую Струміла ўвёў у 8-9 дэкадзе свайго жыцця.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**

## Веласіпедны сезон у Беластоку

1 красавіка гэтага года пачаўся чарговы сезон Беластоцкага веласіпеднага транспарту «БіКеР». Ахвотныя катацца на веласіпедзе атрымалі 500 гарадскіх ровараў (зараз у пунктах пракату іх на 40 больш чымсьці ў мінулым годзе). Будзе таксама 20 велатандэмаў і 20 роварчыкаў для дзяцей. І ўзнікнуць чатыры новыя пункты пракату. У горадзе будзе іх 50. Будуць яны адкрыты штодзень кругласутачна — да 30 лістапада. Гэтаксама мае быць у 2018 і 2019 гадах. Веласіпеды будзе можна арандаваць таксама ў Харошчы (тут 14 веласіпедаў) і ў Юхноўцы-Касцельным (20).

Пунктаў пракату шмат і яны ў зручных для веласіпедыстаў месцах. Найбольш іх у цэнтры горада. Вялікай зацікаўленасцю карыстаецца, між іншым, пункт пракату ля скрыжавання алеі Пілсудскага з вуліцай Сянкевіча, ля скрыжавання вуліц Вышынскага і Монтэ -Касіна каля аўтавакзала ды на Рынку Касцюшкі. Веласіпеды гэта важны элемент публічнага транспарту. Зараз яны найбольш папулярныя ў Польшчы.

Цяпер на гарадскіх роварах, ды на дарожках для веласіпедыстаў кожны дзень можна ўбачыць г.зв. цыклістаў у цэнтры горада і ў далёкіх ад яго жылых кварталах. Зараз у Беластоку налічваецца каля 100 кіламетраў веладарожак. Веласіпедныя сцяжынкі часта будуюць на вуліцах, якія перабудоўваюць і пашыраюць. З кожным годам іх прыбывае.

Варта дадаць, што язда на веласіпедзе гэта ашчаднасць і вельмі важны для здароўя рух.

(яц)

## Добра ведаць...

Харчовая прамысловасць вырабляе тысячы прадуктаў, якія ў перапрацаваным відзе змяшчаюць хімічныя злучэнні, кансерванты і фарбавальныя рэчывы. Ствараюць яны вялікую праблему для нашага арганізма, які не можаператравіць некаторых злучэнняў.

Наш арганізм мае шмат праблем са страваваннем «смеццевага харчавання», газаваных напояў, рознага віду закусак і смакоцця. Для прыкладу: спажываны вінегрэт з гароднiны ператраўляецца адразу, максімальна праз дзве гадзіны, калі гамбургер залежваецца ў арганізме каля трох дзён і нават застаюцца рэшткі, якія не могуць быць ператраўлены. Затым можам сабе ўявіць, што адбываецца, калі кожны дзень спажываем фаст-фуды. Аднак у гэтым выпадку не будзем засяроджвацца на такога роду прадуктах, а тым больш на забойчых газаваных напітках. Прадукты гэтыя змяшчаюць больш чым адзін элемент, якія могуць адмоўна паўплываць на стан здароўя.

Усім добра вядома, што кока-кола з'яўляецца шкодным прадуктам. Яе хімічны састаў раўназначны з больш чым трыццацю лыжкамі цукру ў адной банцы напою. А гэта сур'ёзная праблема для тых, хто спажывае кока-колу ў празмернай колькасці.

Празмерна высокі ўзровень цукру і глюкозу ў арганізме можа быць прычынай праблем з артэрыяльным ціскам, паўнаты, недастатковасці сэрца, запалення суставаў, эмбаліі і т.п.

Калі вып'ем адну банку кока-колы, могуць выявіцца адмоўныя эфекты. Пасля 10 мінут арганізм атрымае такую колькасць цукру, які патрэбны на цэлы дзень, а такая колькасць пастаўленая ў так кароткім часе мае вялікае ўздзеянне на арганізм. Пасля 20 мінут пячонка ператварае цукар у тлустасць. Пасля 40 мінут глюкоза пачынае пранікаць у кроў, а ў выніку павышаецца ціск крыві, а крывяносныя сасуды празмерна расшыраюцца. Пасля 50 мінут арганізм пачынае выбраляць дафамін, ад чаго таксама павышаецца ціск. Зважыўшы гэтыя эфекты можна прыйсці да высновы, што празмернае спажыванне кока-колы можа паўплываць на спыненне акцыі сэрца.

(ус)


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Смачны суп Вольгі Гапеевай




Ці можна паразмаўляць з супам, які паставілі перад вамі ў талерцы? Ці можна развесяліць, перамяніць яго настрой?

Адказ знойдзеце ў апавяданні «Сумны суп», які пачынаецца так:

*У кватэры нумар 66 шматпавярховага дома на пліце ў рондлі жыў суп. Аднойчы, здаецца гэта было ўчора, суп вылілі ў талерку і паставілі на стол. Хлопчык Уладзік грозна занёс лыжку і апусціў яе ў талерку. Але замест таго, каб зачарпнуць суп і паднесці лыжку да рота, Уладзік стаў павольна боўтаць лыжкай у талерцы, быццам спрабаваў там нешта знайсці. Суп ужо стаміўся ад таго, што ў ім туды-сюды валэндалі лыжкай, якую ён пачаў пацiху недалюблiваць.*

*— Колькі можна! — думаў суп. — Я ўжо пачынаю замярзаць тут. А яшчэ гэтая лыжка, у мяне ўжо галава ад яе разбалелася.*

*І тут пачуўся голас Уладзіка, як прагучаў як прысуд:*

*— Гэта сумны суп, я не буду яго есці...*

У ходзе чытанкі мы шмат чаго зразумеем, напрыклад як капрызлівы Удадзік, які не хацеў есці, марудзіў ды адным, дурным словам моцна пакрыўдзіў у нічым невінаваты суп. Які тут канец і выснова? Як ты паводзіш сябе пры стале? Ці думаеш пра іншых, якія таксама маюць свой гонар і пачуцці?

Вось гэта выклік для сучаснага дзіцяці!

У кніжцы, якая заваявала ў Беларусі прэстыжнае званне «кніжкі года»*, пяць каларытных і мудрых апавяданняў: «Сумны суп», «Парасон і слоўнік», «Хворы гузік», «Кот і кацяня», «Навошта лічыць авечак».

Вольга Гапеева свае апавяданні напісала для дзяцей і дарослых. У кніжцы ўсё магчымае: слоўнікі дапамагаюць парасонам, гузікі шукаюць сэнс жыцця, а вожыкі спрабуюць знайсці адказ на адвечнае пытанне: навошта перад сном трэба лічыць авечак? Усе, хто возьме ў рукі гэтую кніжку — дзеці, дарослыя, настаўнікі — будуць разважаць і думаць:

— А мы як паводзілі б сябе на месцы кніжных герояў?

Кніжка «Сумны суп» прыаздоблена вясёлымі ілюстрацыямі, якія прыдумала мастачка Марта Герашчанка.

Гэты цудоўны падарунак можна выйграць у конкурсах «Зоркі»! Кніжкі атрымалі мы ад сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**(гак)**

* Вольга Гапеева, *Сумны суп*, Мінск: «Галіяфы», 2014.

# Вясновыя мары і вершы


Фота Ганны Кандрацюк
Дзяўчаты з Орлі

У чаканні сапраўднай вясны ажно злосць бярэ і кружыцца галава. Хай бы хутчэй пацяплела! Заззяла сонца, расцвілі дрэвы і кветкі ў агародчыках. Іншыя, як Іза Бароўская, чакаюць цёплых начэй і бляску месяца, які дапаможа асвятліць дзявочыя сакрэты.

Вясна — гэта час, калі ад чакання кружыцца галава і самі пішуцца вершы. Яны каляровыя як мары Малгосі Нос, якую цешыць клёкат буслоў і травеньская зелень.

А нас цешыць, калі Малгося (яна дэбютантка), як яе старэйшыя сяброўкі з Гарадка, пералівае свае пачуцці на паперу па-беларуску. І робіць яна гэта шчыра, пад уплывам настрою, а не толькі на конкурс.

Таму спадзяемся, што здзейсняцца выказаныя ў вершах мары і яны прызавуць к нам сапраўдную вясну!

ЗОРКА

Ізабела БАРОЎСКАЯ,
Заблотчына, Гімназія ў Нараўцы

## Ноч

Цёмная ноч.
Гэта самае прыгожае ў свеце.

Калі залатыя зоркі ззяюць на небе,
Я стаю моўчкі
і прагна хапаю паветра.
Гляджу на цябе, галоднымі вачыма.

Калі месяц асвятляе мяне,
гэта найцудоўнейшае пачуццё,
якое ведаю.
Я бачу ў цемры твой контур.

Я проста люблю цябе.

Малгося НОС
ПШ у Гарадку, VI б клас

## Закахайся ў вясну

Які цёплы дзень вясны:
Сонца вызірнула і ўсміхаецца.
Птушкі даюць канцэрт у двары,
Кветкам пялёсткі раскрываюцца.

Стала зялёненькай трава —
Такі колер вясна ёй дала,
І распусціліся лісты
На голлі толькі што пустым.

У гнёзды вярнуліся буслы
І ежу носяць для сям'і.
Клёкат вясёлы чуць здалёк.
Снегу прапаў нават намёк.

З хаты сваёй выходзь і ты!
Прыродай свежай цеш душу,
Бяры пяро і верш пішы,
Пра закаханасць у вясну.

# УВАГА КОНКУРС! № 19-17

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 21 мая 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Жывуць на пяці палічках**
**сямёра блізнят-сястрычак,**
**Як быццам адна сям'я,**
**у кожнай адно імя:**
**«до», «рэ», «фа”.**
**Н...**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 15-17: пчала.**

**Узнагароды, кніжкі «Сумны суп» Вольгі Гапеевай, выйгралі Матвей Зыскоўскі з КШ № 1 у Гайнаўцы, Мая Тапалянская з Нарвы, Зося Саковіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Вольга Мішчук з Арэшкава, Іаанна Нікіцюк з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, Вераніка Матвейчык з Шудзялава. Віншуем!**

# Нарва страляла з агнястрэльнай зброі!

Усе хочам ведаць асновы і прыёмы самаабароны. У гэтай справе шмат могуць дапамагчы Міжшкольныя спаборніцтвы па стральбе, якія ўжо чарговы раз, 5 красавіка г.г., арганізавала беластоцкая Гімназія № 7. Усе ўдзельнікі яшчэ да таго як пачалі страляць, перайшлі абучэнне як абыходзіцца са зброяй. Заняткі павёў настаўнік фізкультуры Аркадзь Цімафяюк. У час абучэння аказалася, што нашы гімназісты не абы-якія стральцы і што спаборніцтвы на ціры «UKS Kaliber» будуць заўзятыя. У змаганні прынялі ўдзел каманды пяці гімназій: Непублічная гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія, Гімназія з Орлі, Белгімназія з Гайнаўкі, Гімназія з Нарвы і гаспадары.

Першыя прызы і залатыя медалі заваявала Нарва.

У катэгорыі індывідуальных стральцоў найлепшымі былі:
**I месца** — Януш Галёнка з Нарвы (191 бал);
**II месца** — Міхал Федарук з Нарвы (190 балаў);
**III месца** — Барбара Лук'янюк з ПГ № 7 у Беластоку (190 балаў).

У катэгорыі школьных каманд перамаглі:
**I месца** — ПГ у Нарве;
**II месца** — ПГ у Орлі;
**III месца** — ПГ № 7 у Беластоку.

Нарваўскія пераможцы ў якасці дадатковай узнагароды мелі магчымасць пастраляць з агнястрэльнай зброі.

У спаборніцтвах упершыню ўдзельнічалі настаўнікі. Яны не маглі быць горшымі за сваіх падапечных, за якіх таксама хваляваліся.

А вось настаўнікі-пераможцы:
**I месца** — Бажэна Шакала-Яфімюк з ПГ з ДНБМ у Гайнаўцы (189 балаў);
**II месца** — Альжбета Рудкоўская з ПГ № 7 у Беластоку (188 балаў);
**III месца** — Славамір Сахарэвіч з ПГ у Орлі (184 балаў).

Асаблівыя віншаванні належацца спадарыні Альжбеце Рудкоўскай, якая прыдумала ідэю такога конкурсу, які шмат чаму вучыць і вельмі падабаецца нашым гімназістам. Яна таксама даглядае, каб усе беларускія ідэі і спаборніцтвы былі агучаны ў беларускіх СМІ.

**ЗОРКА**









## Вершы Віктара Шведа



### Марская вада

Марская вада, якой усё-ткі
На многа больш ад салодкай.
Яна цяжэйшая даволі,
Таму што ў ёй многа солі.

Салёная вада, зразумела,
Узнімае нашае цела.
Тады лягчэй у ёй плаваць
Чым у басейнах, ці ў ставах.

### Навошта рыбам вусы?

Нашы карпы і ўюны
З вусамі заўсягды яны.
Вусы ім могуць памагчы
Знайсці ў вадзе сабе харчы.

Дакранаюцца вусамі
Да сустрэтай яды прама,
Вусы патрапяць адгадаць,
Ці будзе смачная яда.

## Травень (май)

**ТРАВЕНЬ** — гэта старажытнабеларуская назва месяца. Яна паходзіць ад слова «трава». Менавіта ў гэтым месяцы зямля пакрываецца зялёным дыванам з розных траў.

У зялёнае ўбранне апранаюцца таксама дрэвы. Першай расплятае свае косы бяроза.

У траўні квітнее чаромха. Звычайна падчас яе цвіцення нараджаюцца халады, якія ў народзе называюць «чаромхавымі» (па-польску — гэта «зімна Зоська»).

Пасля чаромхі зацвітае бэз. Бэз, у адрозненні ад чаромхі, любіць цёплыя і сонечныя дні.

У бялюткім убранні — сады. З надыходам цяпла паяўляецца шмат рознай машкары. У гэты час вяртаюцца з выраю ластаўкі і стрыжы, якія кормяцца насякомымі.

Травень — месяц птушыных спеваў.

*(паводле: «Жывая кніга прыроды»)*



## Польска-беларуская крыжаванка № 19-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 15-17:**

Бусел, швед, верш, біржа, шкура, кат, тура, пара, масаж, лак. Пошта, бура, віраж, вера, шарж, шакал, ара, дадатак.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Марыя Кардзюкевіч, Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Матэвуш Валентыновіч, Мартына Ігнатовіч, Каміля Цілюлька** з Бабікаў, **Крыстына Мішчук** з Арэшкава, **Матэвуш Зыскоўскі** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Ігнацы Дудар, Мацей Путко** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Марта Петручук** з Нарвы. Віншуем!





**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**
Альхоўка, Нараўчанская гміна




## Не сумуй

*Не сумуй, холад адыдзе,*
*Цёплае сонца нагрэе непрыязны свет.*
*У сэрцы маім любоў не загіне,*
*У сэрцы навек застанецца каханы твой след.*
*Без цябе жыць не магу я,*
*Не знаю, куды без цябе мне самому ісці.*
*Скажы, мілая, ці мяне яшчэ любіш,*
*Ці часта прыходжу я ў твае цяжкія сны.*
*Не сумуй, разам пакрочым,*
*Свет калярковы цяпер ужо навек будзе наш*
*Не сумуй, любоў дапаможа,*
*Смутак расстання назаўжды адыдзе ад нас.*
*Зноў мы сустрэнемся, зноў расцалуемся,*
*Зноў быццам сад расцвіцем.*
*Вечар маёвы, як казка чароўная*
*Атуліць цябе і мяне.*
*Не сумуй: «Besame mucho».*
*Я вельмі моцна люблю і цалую цябе.*

## Возера

*Затапіла возера палеткі,*
*Затапіла возера сяло*
*І няма Лукі — вялікай вёскі.*
*Жаль — не вернецца сюды жыццё.*

*Там, дзе вуліцай хадзілі людзі,*
*Дзе цвілі пахучыя сады,*
*Дзе вучыліся ў школе дзеці,*
*Там цяпер блішчыць люстра вады.*

*Жыхары атрымалі кватэры,*
*У якіх выгодна, добра жыць.*
*Старажылаў мучаць успаміны*
*Па мінулым, па слядах былых.*

*Чалавек хацеў бы дакрануцца*
*Да бацькоўскай хаты, да зямлі,*
*Да жыцця, якому не вярнуцца,*
*Бо яно пад хвалямі вады.*

*Засталіся людзям успаміны —*
*Даўнія вясковыя дзянькі...*
*Носяць ветры ў сумнай настальгіі*
*Ціхія малітвы ля вады.*

## Не саромейся

*Не саромейся прызнацца : «Не ведаю».*
*Усё ведаць ніхто не можа.*
*Не саромейся сказаць: «Памыляюся»,*
*Бо памылкі робіць кожная асоба.*

*Не саромейся прасіць: «Памажыце мне»,*
*Чалавек жа істота слабая.*
*Не саромейся сказаць: «Перапрашаю вас,*
*Вы прабачце маю непавагу».*

*Не саромейся быць мужным,*
*Выкінь дурныя прывычкі з сябе,*
*Каб быць чыстым як пагоднае неба.*
*Больш нічога ў жыцці не трэба.*

*Будзь адважным, змагайся, наперад ідзі.*
*Ганарыся сваім сумленнем.*
*Крок за крокам, навокал глядзі,*
*Тут яшчэ расце пустазелле.*

*Не саромейся рабіць дабро,*
*Не саромейся змагацца са злом.*

## Мілае, роднае поле

*Поле, мілае поле...*
*На нашым полі жыта.*
*Стаіць сцяною жыта,*
*Як золатам абліта.*

*Ой ты, роднае поле...*
*Стаіць сцяною жыта,*
*А там пасярод поля*
*Магіла не забыта.*

*Святым мне стала поле.*
*Шуміць малітвай жыта,*
*Бо там, пасярод поля,*
*Сястра мая забіта!*

*Сястра на гэтым полі*
*Серпікам жыта жала.*
*Эсэсаўская куля*
*Проста ў сэрца папала!*

*Роднае маё поле...*
*Жыта косяць камбайны.*
*Помню, як гэтым полем*
*Ішлі на захад танкі.*

*Ішлі ды грукаталі,*
*Па ворагу стралялі.*
*Эсэсаўскія трупы*
*На полі тут ляжалі.*

*Поле, мілае поле...*
*На нашым полі жыта.*
*У бляску сонца жыта,*
*Як золатам абліта.*



**Зінаіда КАНДРАЦЮК**
Беласток

## Радзіма твая і мая

*Я Гайнаўскай сын зямлі,*
*Ты гэтай зямлі дачка.*
*Красуецца і жыве*
*Радзіма мая і твая.*

*Наш бела-чырвоны сцяг*
*У сінім небе трымціць.*
*Наш Беластоцкі край*
*Лесам і збожжам шуміць.*

*Лесам і полем ляціць*
*Родная песня мая,*
*Слухае песню народ,*
*Слухае песню зямля.*

*Хто песню паможа спець?*
*І хто дапаможа нам жыць?*
*Працоўная моладзь расце*
*І новая песня гучыць.*

*Я Гайнаўскай сын зямлі,*
*Ты гэтай зямлі дачка.*
*У спеве тваім і маім*
*радзіма твая і мая.*

## Пажаданні

Трапіў мой муж у шпіталь. Былі там розныя пацыенты, між іншым старэйшы пан, які ў мінулым быў лётчыкам. Быў ён вельмі гаваркі і дасціпны, весяліў хворых калег вельмі цікавымі гісторыямі. Жыў ён адзінока. Калі папраўлася яму ўстурбаванае здароўе, выпісалі яго з бальніцы. Ніхто па яго не прыйшоў. Адыходзіўшаму калегі пажадалі многа здароўя. Калі развітваўся з маім Валодзем, той пажадаў яму добрага здароўя і сто гадоў.

— А што ж я вам такога кепскага зрабіў!? — крыкнуў лётчык у адказ.

Усе хворыя засмяяліся.

Як відаць, не кожнаму хочацца жыць сто гадоў у самоце.

## Падарункі

Люблю даваць падарункі. Хто не любіць іх таксама атрымліваць!

Найважнейшы падарунак — наша жыццё. Трэба яго любіць і шанаваць, а не труціць нікацінам і алкаголем. Бо калі чалавек мае ў сабе атруту, ён не ёсць сам сабой. Нараджае хворых дзяцей. І тут пачынаецца гора і пекла.

Смерць з'яўляецца другім падарункам ад Госпада Бога. Там няма гора ані пекла, ані чысцілішча. Зямля прымае падарунак і захоўвае яго да часу Справядлівага Суда.

Людзі поўнага розуму зразумеюць, якой вялікай вартасцю з'яўляецца жыццё вечнае тут і навекі, а дасць яго Уладыка Зямлі — Госпад Бог, веруючым і справядлівым.

# Пра гісторыю нашых продкаў



■ Славамір Іванюк і Алег Латышонак (справа)

27 красавіка ў Склепе з культурай Аб'яднання АББА адбылася сустрэча з рэдактарамі і суаўтарамі нядаўна выдадзенай кнігі „Historia Białorusinów Podlasia” Алегам Латышонкам і Славамірам Іванюком. Сустрэчу вёў Мікола Ваўранюк.

Напачатку было пытанне, чаму не названы аўтары паасобных раздзелаў кнігі, быццам — так паводле майго вызначэння — яна пісана талакой. Адказ быў такі, што гэты метад дазваляе ўзбуйніць навуковы рэйтынг аўтараў. У ходзе сустрэчы ўсё ж такі некаторыя аўтары былі рассакрэчаны, у першую чаргу аўтары „археалагічнай” часткі, якімі аказаліся Генадзь Семянчук і Збігнеў Місюк.

Чаму кніга сягае ў так сівую мінуўшчыну, дзе патрэбны археалагічныя дакументы? Бо ў кожным з нас сядзяць гены тых нашых продкаў, што жылі тут раней. Мы не гаворым, што гэта былі беларусы, але гэта былі нашы продкі. Цяперашнія генетычныя даследаванні даказваюць, што гены таго даўняга насельніцтва захаваліся ў нас, што мы з'яўляемся спадкаемцамі таго народу, што тут жыў спрадвечна, што той народ не прапаў бясследна. Да таго ж ніводзін народ не выходзіў з пустэчы і тут таксама ніколі не было пуста. Нам прабавалі ўнушыць, што пасля крыжацкіх паходаў тут асталася адно пустэча, якую насялялі прышэльцы з розных напрамкаў, але гэта не так. Гэта была канцэпцыя прафесара Вісьнеўскага, вельмі папулярная і па сённяшні дзень, якой трымаюцца яшчэ даследчыкі старэйшага пакалення. Аднак археалагічныя даследаванні даказваюць, што тут не было вакууму і мясцовая матэрыяльная культура складае кантынуум з ранняга сярэдневякоўя ў пазнейшы час. Бо ж немагчыма, што некалькі наезніцкіх рэйдаў маглі спустошыць такую аграмадную тэрыторыю. Магчыма, што нейкі лік насельніцтва быў знішчаны, нейкі лік быў захоплены ў палон, але ж не ўсе. І тут археалогія, з навейшымі яе здабыткамі, аказалася неабходнай.

Далей пайшла гутарка пра сам тэрмін „Падляшша”, адкуль пайшла такая назва. Несумненна, Падляшша — гэта краіна „пад ляхамі”, бо так гэтая краіна была бачана ад Вільні; далей жылі ляхі. Прычым не былі гэта мазаўшане. Берасцейска-Драгічынская зямля была тады адзінай па сутнасці цэласцю. Цяпер мы прымяняем гэтую назву для ўсёй тэрыторыі, у тым ліку і да тых земляў, дзе пражываюць беларусы ў Польшчы, прылічаючы і частку даўняга Гарадзенскага павета Троцкага ваяводства.

Мікола Ваўранюк згадаў пра больш сучасныя падзеі, асабліва найпершых пасляваенных гадоў, якія ў нашай памяці, у сувязі з навейшымі маршамі ў гонар выклятых жаўнераў, здаюцца быць больш трагічнымі чым сама толькі што праміну-лая вайна. Вось постаць Аляксандра Валкавыцкага, з якога адны робяць сімвал камуністычнага ярма, а іншыя зводзяць яго ролю толькі да настаўнічання — пра яго ў тэксце кнігі не згадваецца, толькі паказаны здымак... Раздзел пра вайну і пасляваенны перыяд напісаў Яўген Міраловіч, які больш увагі адводзіў агульным працэсам і высновам, а менш паасобным удзельнікам падзей. Бо ж і так немагчыма пералічыць усе прозвішчы.

У кнізе асаблівы націск пакладзены на эпоху сярэднявечча на Падляшшы, бо гэтая тэма агульна закінутая, а тут быў шанс паказаць яе бліжэй, а гэта ж некалькі соцень гадоў.

У прынцыпе то павінна быць так, што палова кнігі павінна быць адведзена XX стагоддзю, а другая палова, або нават і трэць, на апошнія падзеі. Сярэднявечча гэта і іншая тэрытарыяльная карта Падляшша, якое поўнасцю засялялі рускія плямёны, у тым ліку і на захад ад Буга, да часу, калі князь Вітаўт запусціў на Падляшша прыток прышэльцаў з захаду.

Было пытанне і пра асобы, якія пакінулі найбольшы адбітак у гісторыі Падляшша. Алег Латышонак адзначыў, што беларускія гісторыкі будуюць гісторыю Беларусі на фундаменце Полацкага княства. Калі ідзе пра дзяржаўную гісторыю, гэта можа і слушна, бо Полацкае княства было выключна беларускім, калі апошнія землі былі пад вонкавым уладаннем, у тым ліку і Падляшша, якім часта гаспадарылі кіеўскія князі. Нам, на Падляшшы, важныя і тураўскія князі, як і валынска-галіцкія. Калі ў гісторыі Беларусі важнай асобай з'яўляецца Усяслаў Чарадзей, то ў нас такой асобай з'яўляецца Даніла Раманавіч. Тут многа дзеілася, толькі гэта выпадае з кантэксту гісторыі Беларусі бачанага з Мінска. А гэта ж былі не толькі нашы князі, але і нашы продкі, якія прасоўвалі ўсё мясцовае жыццё. Для гэтай зямлі можа менш важны Даніла, але больш ягоны брат Васілька і Уладзімір, якія абаранялі і будавалі гэтую зямлю. Яны ўзводзілі першыя цэрквы, першыя каменныя дамы; магчыма, што Уладзімір Васількавіч пабудаваў першы каменны дом у Бельску. Для беларускай нацыі важнымі былі людзі XIX стагоддзя, калі наспела адчуванне нашай адметнай тоеснасці, віленскія прафесары — Міхал Баброўскі, Язэп Ярашэвіч ці Ігнат Даніловіч. Іх не выпадае называць беларусамі, але яны закладалі наш падмурак — паказвалі, што ў нас асобная гісторыя, асобная мова. Яны выхоўвалі такіх людзей як Ян Чачот, якія сталі пісаць па-беларуску; Чачот быў вучнем Даніловіча. А пра беларускую нацыю можна гаварыць з часу паўстання 1863 года, хаця першы нацыянальны кліч з'явіўся ў час паўстання Касцюшкі, дзе ў паўстанчых песнях гаворыцца „няхай маскаль беларусаў знае” — менавіта беларусаў. Сам Касцюшка быў польскім патрыётам, які марыў стварыць такую вялікую Рэч Паспалітую, дзе ўсе гаварылі б па-польску. Аднак у Касцюшкі была нейкая такая якасць, дзеля якой беларускія сяляне ўспрынялі яго як народнага героя, не „панскага”, але „нашага”; песні пра яго былі папулярныя нават пад Смаленскам.




Беларускае школьніцтва. Першая вестка пра беларускую школу паходзіць з пачатку XX стагоддзя. Яшчэ да Першай сусветнай вайны працавала прыватная школа ў мясцовасці Альша на Сакольшчыне, між Дубровай і Сухаволяй. Беларускае школьніцтва пачынае развівацца ў час Першай сусветнай вайны, калі нямецкія акупацыйныя ўлады дазволілі на беларускую асветную дзейнасць. У той час больш за 90% мясцовых беларусаў падалося ў бежанства, засталіся, аднак, некаторыя вёскі, напрыклад Грабавец каля Дубіч, Мора і некалькі іншых; і там у 1917-1918 гадах ствараліся беларускія школы. А ў лютым 1919 года настала новая ўлада, якая зліквідавала гэтыя школы і трэба было чакаць да 1939 года, калі настала чарговая новая ўлада... У 1918 годзе былі і школы ў Беластоку і ў Бельску, і ў Аўгустове што пад Сувалкамі. Трэба мець на ўвазе, што Вільня не надта ад нас далёка, граніцы ад яе не было, там тады быў цэнтр беларускасці, адтуль ішла да нас асвета. А пасля вайны... Сакольскі, Беластоцкі і Бельскі паветы тадышняга Беластоцкага ваяводства былі прылічаны да Цэнтральнай Польшчы, і тут навучанне па-беларуску было забаронена, а Гарадзенскі і Ваўкавыскі паветы лічыліся крэсавымі; устаноўленае тады размежаванне амаль супадала з сённяшняй дзяржаўнай граніцай.

Залы было пытанне, ці археалагічныя звесткі ў кнізе актуальныя. Так, яны самыя актуальныя, па стане на 2014 год. Да таго Збігнеў Місюк трымае руку на пульсе археалагічных даследаванняў у Польшчы і ён, бадай, найлепш у краіне арыентуецца ў справе.

Славамір Іванюк адзначыў, што польскія археолагі падыходзяць да археалагічных даследаванняў Падляшша вельмі агульна, бо няма нейкіх доказаў, што тут калісь, у раннім сярэднявеччы, пражывалі палякі, тут жыло зусім іншае грамадства. Нельга ў гэтым кантэксце гаварыць пра беларусаў, але таксама і пра палякаў. Таксама і наконт Мазовіі шмат у польскай гістарыяграфіі міфалогіі, што мазаўшане сяліліся сюды з захаду. Бо тут жа ўзнікае пытанне, а калі ж тыя мазаўшане пранікалі з усходу на захад. Археолагі карыстаюцца тэрмінам археалагічнай культуры, а не нацыянальнасці; яны сваіх знаходак, што здабываюць з зямлі, не асацыююць з ніякай нацыянальнасцю, цалкам слушна. Бо ж нельга цяперашніх ідэалагічных штампаў пераносіць у даўніну, нават стагадовую, не гаворачы ўжо пра тысячагадовае мінулае.

Ян Тышкевіч, які да нядаўніх пор лічыўся найбольшым аўтарытэтам па гісторыі Мазовіі, ужо неактуальны. У навейшай гісторыі Мазовіі Марэк Дулініч піша, што сапраўдныя мазаўшане жылі на поўнач ад Нарвы і Віслы, а ўсё апошняе гэта ўжо не Мазовія, калі Тышкевіч пісаў, што Мазовія цягнулася аж па Пінск. Тут сваю ролю сыгралі каменныя магілы. У XIX стагоддзі археолагі сталі адкрываць на Падляшшы і на захад ад яго каменныя магілы (groby w obstawie kamiennej); іх знаходзілі таксама і на Берасцейшчыне. І ў польскай гістарыяграфіі прынята іх называць мазавецкімі магіламі, а пасля ўсе гісторыкі гэта паўтаралі. А вось нядаўна малады археолаг Міхал Дзік, які даследаваў пахаванні перыяду ранняга сярэднявечча, сцвердзіў, што гэта была простая эвалюцыя пахавальных звычаяў у мясцовым грамадстве, не без уплыву, вядома, суседскіх узораў; гэтак жа і цяпер усё паступова мяняецца. Дарэчы, археалогія, з ліку гістарычных навук, развіваецца зараз найхутчэй, бо іншыя гістарычныя крыніцы ўжо амаль вычарпаны, а ў зямлі заўсёды можна знайсці нешта новае. Магчыма, што перспектыўным зараз падаецца даследаванне скандынаўскіх архіваў, дзе можа быць шмат сярэдневяковых дакументаў, у тым ліку кранаючых і нашы землі. Некаторыя з іх ужо ўвайшлі ў нашу гістарычную літаратуру і магчыма, што іх больш. У міфалогіі скандынаваў сустракаюцца элементы з нашай тэрыторыі. Дарэчы, новыя тэорыі сцвярджаюць, што яцвягі былі вікінгамі; да гэтага тэзіса схіляюцца нават польскія археолагі, якія перакопваюць Сувальшчыну. Былі тут розныя карпарацыі вікінгаў, у іх ліку і яцвягі; такія карпарацыі дзейнічалі па ўсёй Русі, а карпарацыя яцвягаў загадвала камунікацыямі па Нёмане, Бугу і Прыпяці. Рагвалод і Рагнеда былі вікінгамі, дынастыя Рурыкавічаў — фінская паходжання... Трэба аднак дадаць, што да гэтых карпарацый далучаліся і тутэйшыя, якія засвойвалі дасягненні вікінгаў; гэта ж так, як зараз пасля апошняй вайны нашы запісваліся ў партыю...

Гісторыю пішуць пераможцы, зазначыў Славамір Іванюк, таму кнігу пра беларусаў Падляшша можна лічыць нашай перамогай. Ад прысутных у зале слухачоў былі некаторыя засцярогі, што мала ў ёй на некаторыя тэмы, але ж гэта так у жыцці, што *jeszcze się taki nie narodził*... Аўтары палічылі гэтыя крытычныя заўвагі каштоўнай падказкай на будучыню...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



# Засталіся адно ўспаміны (2)

У Ваяводскае праўленне кіно я перавёўся з Гайнаўкі, дзе працаваў штатным канторшчыкам у Гарадской радзе. У маладосці я захапляўся кіно. З сябрамі хадзілі мы ў Чаромху глядзець кінасеансы. Быў я пастаянным чытачом журналаў «Фільм» і «Экран». Камплектаваў фота кінаакцёраў. Сабраў шматлікую калекцыю, у пераважнай большасці савецкіх, кіназорак, бо ў шасцідзясятыя гады самымі папулярнымі былі савецкія фільмы. Апрача фота кінаакцёраў камплектаваў я паштовыя маркі, віды гарадоў і зборнікі песень. У гэтым дапамагалі мне савецкія сябры, з якімі наладзіў я кантакты. Па сённяшні дзень успамінаю Барыса Сарокіна і Танюшу (прозвішча вылецела з памяці) з Масквы ды Барыса Зуеўскага з Барыспаля. Нашы кантакты доўжыліся гадамі на зломе пяцідзясятых і шасцідзясятых. А нагода змяніць прафесію трапілася мне выпадкова.

Аднойчы наведаў я дзядзьку Рамана Сідарука ў Дабрыўвадзе. Побач святліцы жыў другі дзядзечка Мікалай Рачкевіч. У той жа дзень у вёску завітала кінаперасоўка. Я рашыў пазнаёміцца з кіношнікамі. У час размовы выявілася, што іхняя брыгада патрабуе кіраўніка кінаперасоўкі. Кампаньёны прапанавалі мне аформіцца на гэту пасаду. Паслаў я прашэнне ў Ваяводскае праўленне кіно. Змяшчалася яно тады па вуліцы Ліпавай на паверсе кінатэатра «Покуй». Галоўным дырэктарам быў Ірыней Крцаль, дырэктарам па тэхнічных справах Леанард Шумель. 6 кастрычніка 1962 г. я атрымаў пісьмо з ВПК, каб ставіцца на працу. З сабою трэба было ўзяць школьнае пасведчанне і даведку з апошняга месца працы. Дамову падпісаў я ў аддзеле кадраў, які ўзначальвала Катажына, як не памыляюся, Маразевіч. У час перагавораў я абумовіўся, што пагаджаюся на пасаду адно кіраўніка кінаперасоўкі «BR-9», якая абслугоўвала вёскі Гайнаўскага і Бельскага паветаў. Так сталася. Дамова прадугледжвала трохмесячны выпрабавальны тэрмін ад 1 лістапада 1962 г. з месячнай платай 1100 зл., пасля працоўная дамова пралангавалася на неабмежаваны тэрмін. Так я стаў штатным кіношнікам. У Беластоку тады працавалі кінатэатры «Покуй» па вуліцы Ліпавай, «Тон» на Рынку Касцюшкі і «Сырэна» па вул. Маніфесту - Ліпцовага, непадалёк відука ля чыгуначнага вакзала. У будынку Таварыства польска-савецкай дружбы існаваў дыскусійны фільмавы клуб, у якім дэманстраваліся савецкія кінакарціны.

На Гайнаўшчыне вясковае сталае кіно працавала ў Белавежы, Чаромсе, Чыжах, Дубінах, Кляшчэлях, Нарве і Нараўцы, а гарадское ў Гайнаўцы — «Ляснік». Апрача таго ў раёне працы нашай кінаперасоўкі ў школах дэманстраваліся асветныя фільмы. На Гайнаўшчыне займаўся гэтым кінамеханік Шадуя з Дубін, а на Бельшчыне — Бобер (імёны не запамяталіся). Яны перамяшчаліся на ўласных матацыклах. Сеансы былі ў іх бясплатныя. З сельскагаспадарчымі фільмамі ездзіў яшчэ на ровары Болек Гіль, мой швагер па дваюраднай сястры Надзеі Селях. Ён лічыўся працаўніком Павятовага праўлення сельгасгурткоў у Гайнаўцы. У час летніх канікулаў апрача сельскагаспадарчых фільмаў дэманстраваў мастацкія кінастужкі. Тады ад гледачоў браў па залатоўцы. У вясковых сталых кіно ільготныя білеты для школьнікаў першапачаткова каштавалі па 60 грошаў, а нармальныя па 1,20 зл. Пасля паднялі цану на 2 і 4 зл.

18 кінаперасовак было прызначаных да самых адлеглых мясцовасцей, у якіх існавалі школы або былі святліцы. Залы для дэманстрацыі кінафільмаў кваліфікавалі Павятовыя пажарныя камендатуры. Яны мелі абавязак праводзіць супрацьпажарны кантроль і дазваляць або забараняць даваць кінасеансы. Брыгаду кінаперасоўкі састаўлялі тры чалавекі: кіраўнік, кінамеханік і шафёр. Падлягалі яны кіраўніку Аддзела распаўсюджвання, які ўзначальваў кіраўнік Казлоўскі. За працай кінаперасовак наглядала старшая інспектар пані Гедройц. Кіраўнік быў адказным за працу брыгады, займаўся падручнай бухгалтэрыяй, рэгістраваў у касавым рапарце прыбыткі і выдаткі кінаперасоўкі, выплачваў камандзіровачныя, затым пасля заканчэння работы, г.зн. 24 чысла здаваў дакументацыю галоўнаму бухгалтару. Шафёр у той час здаваў у Транспартны аддзел кіраўніку Вільгельму Бялевічу карту працы аўтамабіля за дваццаць тры дні, затым, адвёўшы машыну на базу, здаваў у кантору аддзялення тэхпашпарт. Кінамеханік у гэты час здаваў праектар у майстэрню на агляд, а копіі кінастужак — у ЦВФ (цэнтр пракату фільмаў). Гэта ўстанова змяшчалася па вуліцы Гетманскай і межавала з кінаперасовачнай аўтабазай. Афарміўшы ўсе службовыя справы, кожны з нас вяртаўся дамоў на тыднёвы адпачынак.

(працяг будзе)

❖Уладзімір СІДАРУК



# http://migalayte.ucoz.ru

Выдатна, калі настаўнік беларускай мовы і літаратуры не толькі настаўнік, але і патрыёт. Тады гэтыя прадметы становяцца нейкім натуральным працягам думак і светапогляду такой асобы. А для навучэнцаў такія абставіны з'яўляюцца дадатковым чыннікам, які выклікае павагу і пашану да гэтага настаўніка.

У Байнэце ўжо некалькі гадоў існуе сайт настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Алены Мігаль, якая выкладае ў вясковай Хальчанскай базавай школе, што ў Веткаўскім раёне Гомельскай вобласці. Віртуальнае інтэрнэт-прадстаўніцтва выкладчыцы месціцца па адрасе http://migalayte.ucoz.ru і ўяўляе сабой светлае прывабнае выяўленне з дэвізам „Як жыць — дык жыць для Беларусі...” з верша знакамітай паэткі Ларысы Геніюш. Ніжэй знаходзіцца партрэт Алены Мігаль, а таксама спасылкі на асобныя часткі сайта.

„Настаўнікі роднае мовы, студэнты, вучні і ўсе, хто цікавіцца беларускай моваю! На гэтых старонках вы знойдзеце шмат карыснага”, — сцвярджае ўладальніца сайта. І як пацвярджэнне гэтых слоў — запрашэнне для вучняў у новы раздзел „Гульні”. Там школьнікі змогуць, гуляючы, вучыць мову і літаратуру, адказваючы на пытанні розных гульняў. Дарэчы, пытанні гэтыя не надта лёгкія, і зусім верагодна, што не кожны дарослы здолее праз іх пахваліцца сваімі ведамі беларускай граматыкі ці абсалютным веданнем таго, каму з беларускіх пісьменнікаў належаць тыя ці іншыя крылатыя выразы.

Каб больш пазнаёміцца з Аленай Мігаль, варта зазірнуць на старонку „Педагагічная дзейнасць”, выйсце на якую знаходзіцца з левага боку цэлага выяўлення. Гэтая старонка нібыта „зіхаціць” патрыятызмам. „Галоўная педагагічная ідэя: Мой род — мой народ — родная зямля”, „Структура педагагічнай ідэі: Я — мая сям'я — мой род — мой народ — чалавецтва”, „Педагагічнае крэда: Любоў да сябе — павага да бацькоў, да роднай мовы — любоў да Радзімы”. Таксама ў якасці дэвіза там месціцца фрагмент верша Ніла Гілевіча „Мы тройчы дзеці ў вечным крузе: / Мы — дзеці роднае сям'і, / Мы — дзеці маці-Беларусі, / Мы — дзеці Матухны-Зямлі”.

Настаўніца таксама паведамляе, што займаецца актыўнай грамадскай дзейнасцю — з'яўляецца старшынёй культурна-масавай камісіі прафсаюзнага камітэта, кіраўніком даследчай групы „Жывое слова” і раённым трэнерам па падрыхтоўцы да алімпіяд.

Настаўнікам беларускай мовы і літаратуры дадзены сайт можа быць карысным метадычнай інфармацыяй, якая ў вялікай колькасці знаходзіцца ў рубрыцы „Метадычны куфэрак”. А вось кожнаму беларусу не пашкодзіць наведаць старонку „Моўныя залацінкі”. Там можна пачытаць радкі беларускіх аўтараў пра родную мову.

Варта адзначыць, што свой сайт Алена Мігаль сёлета яшчэ ніяк не абнаўляла. Найбольш актыўна яна ім займалася ў 2012-2014 гадах. Менавіта тады на сайце была размешчаны большасць матэрыялаў, якія дарэчы, і дагэтуль не страцілі сваёй актуальнасці, бо тычацца „разумнага, добрага, вечнага”. Найпазнейшае абнаўленне датуецца маем 2016 года і тычыцца мінулагодняга Вялікадня. З ім настаўніца віншуе ўсіх наведвальнікаў і прапануе сабраць „святочны пазл” з 40 кавалачкаў намаляванага велікоднага яйка. Што сталася з сайтам і чаму ён пакрысе становіцца занядбаным, яго ўладальніца нідзе не тлумачыць.

❖Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з календара

Збіральнік нацыянальнага фальклору



# 140 гадоў з дня нараджэння Антона Грыневіча

Збіральнік беларускага музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар Антон Грыневіч нарадзіўся 3 траўня 1877 г. у фальварку Іваноўшчына Лепельскага павета (цяпер Полацкі раён). Скончыў Дзісненскае гарадское вучылішча. Быў калежскім сакратаром у Санкт-Пецярбургу, служыў там у дэпартаменце гандлю і промыслу. Заснавальнік прыватнага „Выдавецтва Антона Грыневіча” (1910). Удзельнік легендарнай беларускай суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца”. У 1910-1912 гг. выдаў два тамы кніжкі „Беларускія песьні з нотамі”, куды ўвайшлі класічныя творы беларускага меласу. Другі том выдаў разам з Андрэем Зязюлем. Выдавецтва выпусціла за тры гады ў свет 11 кніжак, у тым ліку зборнікі паэзіі Янкі Купалы „Гусляр”, „Адвечная песня”, тры зборнікі апавяданняў Якуба Коласа, першую кнігу Уладзіслава Галубка „Апавяданні”, зборнікі навел Таўруса і Гвазда. Антон Грыневіч быў у 1918 г. у Маскве загадчыкам мастацкай падсекцыі Беларускага нацыянальнага камітэта, а ў 1919 г. — загадчыкам Беларускага народнага дому ў Мінску. Выкладаў таксама ў школе, у беларускай гімназіі (да чэрвеня 1920 г.).

У Вільні жыў і працаваў з 1920 г. Падтрымліваў Беларускую драматычную майстэрню. У Вільні выдаў „Народны спеўнік” (1920), „Школьны спеўнік” (1920; у ім змясціў і свае творы на словы Купалы, Коласа, Леўчыка), „Навуку спеву” (1923), «Беларускі дзіцячы спеўнік» (1925). У Вільні рыхтаваў „Канцэртны спеўнік”, „Аднагалосыя, двухгалосыя і харавыя канцэртныя спевы”. Некаторыя яго творы — „Гэй, наперад!”, „Касцу”, былі вельмі папулярнымі ў Заходняй Беларусі. Планаваў выданне вялікага музыка-этнаграфічнага зборніка беларускіх песень, запісаных ім у 1906-1920 гг. У віленскі перыяд Антон Грыневіч быў арыштаваны дэфензівай, зняволены на Лукішках, па некаторых звестках адбыў амаль год у варшаўскай турме. Пазней быў звольнены з Віленскай беларускай гімназіі за „нядобранадзейнасць”, ізноў паддадзены следству. Уцёк з Польшчы ў БССР.

Жыў у Менску з 1925 г. Сакратар музычнай падсекцыі Інстытута беларускай культуры ў 1925-1928 гг. Пасля працаваў у Акадэміі навук БССР (1929-1930). Удзельнічаў у этнаграфічных экспедыцыях па Палессі, Полаччыне, іншых паўночных раёнах Беларусі. Падрыхтаваў да друку ў БССР зборнікі „Аднагалосыя, двухгалосыя і шматгалосыя народныя песні”, „Дзіцячыя гульні”, зборнік фартэпіянных твораў рэвалюцыйнага зместу на тэксты беларускіх пісьменнікаў. Збіраў фальклор на Палессі і ў Падзвінні. Зрабіў каля 300 запісаў узораў меласу, дзіцячых гульняў на Тураўшчыне і Полаччыне. Антон Грыневіч — аўтар артыкулаў у беларускім перыядычным друку. У часопісе „Наш край” (1925 г., № 1) апублікаваў артыкул „Праграма-інструкцыя для збіральнікаў беларускай музычна-этнаграфічнай творчасці”.

У 1928-1933 гадах жыў у Гарадку і Віцебску. Арыштаваны ў верасні 1933 г. Паводле пастановы пазасудовага органа ў сакавіку 1934 г. засуджаны да 10 гадоў зняволення ў лагеры. Памёр у савецкім канцлагеры ў 60-гадовым узросце ў снежні 1937 г. У архівах Беларусі і Вільні захоўвацца да тысячы запісаў беларускага меласу, сабраных Антонам Грыневічам. Яго фалькларыстычную і музычна-прапагандысцкую дзейнасць высока ацанілі Змітрок Бядуля, а таксама кампазітар і знавец беларускага меласу Міхаіл Анцаў.

❖Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



2017

## PROGRAM FESTIWALU

### XXXVI Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej „Hajnówka 2017” w Białymstoku

Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok, ul. Podleśna 2

**INAUGURACJA FESTIWALU**

**24 maja 2017. godz. 19.00**
OTWARCIE FESTIWALU
KONCERT INAUGURACYJNY
*„Arcydzieła Muzyki Cerkiewnej”*
w wykonaniu
Akademickiego Chóru Rosyjskiej Akademii Muzyki
im. Gniesinych z Moskwy
pod dyr. Dmitrija Oniegina

**PRZESŁUCHANIA KONKURSOWE**

**25.05.2017 (czwartek) godz. 17.00**
1. Zespół Staroobrzędowców „Kazaczij Krug” - Moskwa (Rosja)
2. Chór „Nicolae Bogdan” - Sighisoara (Rumunia)
3. Dziecięcy Chór „Siem not radugi” - Klimowsk (Rosja)
4. Dziecięco-młodzież. Chór „Rapsodia” - Kiszyniów (Mołdawia)
5. Dziecięcy Wzorcowy Chór „Minskije zori” - Mińsk (Białoruś)
6. Dziecięcy Wzorcowy Chór „Raduga” - Baranowicze (Białoruś)
7. Dziecięcy Wzorcowy Chór „Kastalija” - Moskwa (Rosja)

**26.05.2017 (piątek) godz. 17.00**
1. Międzyparafialny Chór „Kamerton” - Giżycko (Polska)
2. Zespół Sztuki Śpiewu „Srietienije” - Mińsk (Białoruś)
3. Zespół Wokalny „Melizma” - Skopje (Macedonia)
4. Zespół Śpiewu Sakraln. „Preobrażenije” - Szczuczin (Białoruś)
5. Żeński Chór Akadem. „Melodia” - Iwano-Frankowsk (Ukraina)
6. Sopocki Chór Kameralny „Continuo” - Sopot (Polska)
7. Chór Winnickiej Uczelni Muzycznej - Winnica (Ukraina)
8. Chór Wojskowej Akademii Technicznej - Warszawa (Polska)
9. Męski Chór „Ąžuolų klubas” - Wilno (Litwa)
10. Chór Uniwersytetu Kijowskiego „Dnipro” - Kijów (Ukraina)

**27.05.2017 (sobota) godz. 15.00**
1. Chór Konserwat. Uralskiego „Sogłasije” - Jekaterynburg (Rosja)
2. Żeński Chór Koledżu Kultury i Sztuki - Żytomierz (Ukraina)
3. Żeński Chór „Mirum” Koledżu Muz. - Nowopołock (Białoruś)
4. Chór Państw. Akademii Muzyki - Dniepropietrowsk (Ukraina)
5. Wokalny Zespół „Acusto” - Kowno (Litwa)
6. Katedralny Chór „Znamiennia” - Równe (Ukraina)
7. Kameralny Chór „ Kapełła Mohylewa” - Mohylew (Białoruś)
8. Chóralny Zespół Solistów „Tiebie pojem” - Krasnojarsk (Rosja)
9. Akademicki Kameralny Chór „Chreszczatyk” - Kijów (Ukraina)

**ZAKOŃCZENIE FESTIWALU**

**28.05.2017 (niedziela)**

godz. 14.00 Ogłoszenie werdyktu Jury i wręczenie nagród
godz. 16.00 Koncert Galowy

# Сакольскія велікодныя сустрэчы

Ужо трэцяя Велікодная сустрэча, арганізаваная Сакольскім асяродкам культуры, у гэты раз прайшла, між іншым, з удзелам калектыву „Заранка” з Крынак.

Ганаровымі артыстамі канцэрта былі славутыя „Курпе зялёнэ”. Па словах вядучай канцэрт, адной з працаўніц таго ж асяродка, паказалі яны нашы танцы і песні. А чые паказалі мы, хто хацеў да нас прызнацца? Нават сакольскі бацюшка Місяюк, які ўдастоіў сваёй прысутнасцю мерапрыемства, рашыў вярнуцца дахаты раней, чым паспелі мы выйсці на сцэну.

Калі ў канцы я запытала ў слухачоў, хто чуў пра валоканне, рукі паднялі ўсяго тры асобы. Як на цэлую Саколку гэта няшмат. На афішы канцэрта напісалі, што „Заранка” выступіць з „галаканнем”. Скуль яны ўзялі гэтае галаканне, зусім не ведаю. Так увайшоўшы на сцэну, я была ў абавязку паясніць, што валоканне, валакальнікі і валачонна ўзяліся ад беларускага „валачыцца” па-польску „**włóczyć się**”. Усё роўна не дапамагло і гэтае тлумачэнне. Сакольскія журналісты ў сваіх справаздачах рукамі і нагамі трымаліся першапачатковай версіі. „Галакальнікамі”, па-мойму, можна назваць удзельнікаў гала-канцэрта фестываля „Беларуская песня”. Але тут якраз ніякага гала-канцэрта не было.

Калі ўжо гаварыць пра новамову альбо мову нанова найбольш ідэй падсунулі мне дзеткі з калектыву. І так на бібліятэчных велікодных співанках замест „ходзіць пава па вуліцы” раздавалася „ходзіць баба па вуліцы” а ў фразе „збяры тую росу ў цынкавую місу” співалі „ў цынкавую пісу”, пры тым смяяліся ад вуха да вуха.

— А што гэта „пісу”? — запытала я ў дзяцей.

— Ну „пісу”, Качынскага, не разумееце?

А зноў названне „Курпе зялёнэ” гучала ім быццам „купы зялёныя”.

Ну, дзеткам можна яшчэ прабачыць, але старым ужо цяжэй.

У час нашага сакольскага выступлення, быццам у велікоднай „Паве”, якую мы там якраз выконвалі, „скуль ні ўзяўся буйны вецер”, пры тым з градабоем і дажджом. Але ж усётакі нам больш пашанцавала, чым павінаму вянцу. І са сцэны не сарвала, і на Дунаец не занясло. Затое пасля канцэрта занесла нас у добры сакольскі рэстаран на бульбу фры з марожаным.

**Іаанна ЧАБАН**

# 07.05 — 13.05

**(22.03. — 20.04.)** Шчасце табе спрыяе, не паддавайся. 7-10.05. прапанова падарожжа, ад якой грэх адмовіцца, новыя перспектывы на працы, магчымасці добрага заробку. Прыцяганне прыязных людзей. Утрымаеш здабытыя пазіцыі. Варушыся, дыхай.

**(21.04. — 21.05.)** На працы хуткі поспех, што прынясе ўдачы пры наступных мерапрыемствах. Цяжкасці ўжо за табой. Многа спраў спросціцца. Перастанеш наракаць і баяцца паразы. Але не абыдзецца без неспадзяванак. Шанц хуткага заробку, але прыйдзецца рызыкнуць. 7-11.05. разлічвай на карысны ход спраў і рашучы прагрэс. У сям'і лады вернуцца на старыя пуці.

**(22.05.—22.06.)** Лёс спрыяе. Паспяшайся з рэалізацыяй старых планаў. 10-14.05. апярэдзіш іншых, дзякуючы адвазе і хуткасці. 10-14.05 хтосьці схоча звабіць цябе, хаця не будзе ў тваім тыпе. Тады ж і здагадаешся, каб пайсці на сваё. Але 8-12.05. будзь вельмі асцярожным, не правакуй лёсу!

**(23.06. — 23.07.)** Моцная воля і спакой дазволяць табе запанаваць над хаосам. Не адмаўляй сабе радасцей. Новыя інтэлектуальныя выклікі (да 15.05.). Слухай сваіх блізкіх. Працуй уважліва, пільнуй дакументы, пошту. Таксама дбай аб сваё здароўе, добра харчуйся. 9.05. адкрыеш у сабе схаваны талент.

**(24.07. — 23.08.)** 7.05. тваю рэкламацыю могуць не прыняць. 7-10.05. спадзявайся цудоўнай весткі. З 10.05. пераможаш цяжкую перашкоду, адчуеш вялікае задавальненне. Меланхалічным настроям скажы «не», а лёс да цябе шырока ўсміхнецца! Дома трымай руку на пульсе. На працы ты на плюсе, да тваё хвалы прычыняцца таксам зоркі асабліва 7-11.05. Не дай сябе прыцягнуць на распродаж (асабліва 8-12.05.), таннае можа быць кепскае.

**(24.08. — 23.09.)** Лёс кіне цябе на глыбокую ваду, але дасі сабе рады. Заззяеш сярод знаёмых, на працы. Мноства энергіі, але можа не ўсю выкарыстаеш як трэба. У пары гайданка эмоцый; можа звярніцеся да спецыяліста ці медыятара. На працы няма табе раўні. Вельмі прыдасца веданне іншых моў (асабліва 7-10.05.). 9-11.05. можа ўдацца завяршэнне важнага праекта ці падпісанне вельмі карыснага кантракта. Але глядзі — 8-12.05. амбіцыя можа зацьміць твой толк.

**(24.09. — 23.10.)** Урэшце аддыхаешся! Канец напружанасці і складаных сітуацый. 7-10.05. ажыўленне пачуццяў у пары. І шанц на заробак круглай сумы! Узрасце ўзровень матывацыі і энергіі. Не паддасіся без бою! Абяцанне любоўных прыгод. На працы задумаешся: эфектыўнасць ці эфектнасць. Не дай сябе прыцягнуць уяве хуткага поспеху і не ідзі на лёгкую нажыву. Хаця прыгожа сябе адрэкамендуеш. Хатні бюджэт лепш няхай пільнуе жонка ці муж!

**(24.10. — 22.11.)** Пазбегнеш праблем, калі не дасі сябе падвесці іншым ці сваёй уяве. Не будзь зайздросным! Немагчымае стане магчымым! На працы асцерагайся спрэчак з супрацоўнікамі і шэфам. У першай палове мая не ангажуйся больш чым трэба, каб пасля не спавядацца з недаробак. Не будзь лепшым спецыялістам за доктара; зайдзі да акуліста. 7-11.05. узмоцніцца твая вера ў свае сілы, будзеш мець прызнанне.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш мець уплыў на ход падзей, сам будзеш вырашаць, твае рашэнні амаль усе будуць трапныя. Але 7.05. не аддавай усіх сіл таму, што гэтага нявартае. 8-12.05. можа паявіцца ў тваім асяроддзі хтосьці несумленны. Расправішся з праблемамі. Адпачнеш. Дасягнеш кожнай мэты, але крок за крокам. Справы ў пары абгавары 9-11.05. Вельмі дбай аб свае косці і лепш пакуль асцерагайся (увесь май) аперацый і хірургічных працэдур.

**(23.12. — 20.01.)** Зэканоміш грошы і час. Але будзь сардэчны і цёплы. Час нялёгкі, але маеш шанц зрабіць многа, калі не паддасіся. Прытрапяцца маленькія ўсмешкі лёсу. 9-11.05. вырашыш складаныя праблемы. Многа прафесійных абавязкаў, справішся з усім. Можаш добра пачаць худзець — еж малымі порцыямі і часта.

**(21.01. — 19.02.)** Мноства спраў для афармлення, ды не бойся. 7-10.05. апынешся ў адпаведным часе і месцы; таксама ўбачыш праўду на поўныя вочы. 10.05. добры час паправіць адносіны ў сям'і. 10-14.05. адкрыюцца перад табою нейкія важныя дзверы. Знайдзі час на адпачынак. Ідучы ўверх у кар'еры, не распіхвайся локцямі.

**(20.02. — 21.03.)** Усё пойдзе належна, але не мяшай свайму шчасцю. Інтэнсіўная праца. Людзі спрыяюць, але горш з магчымымі паклоннікамі. Пара на шчырую размову з партнёрам. Ангажуй блізкіх у супольную справу. На працы сіла і разбітнасць, але і нецярплівасць; не кідай пачатага, не знеахвочвайся! 7-10.05. грошы можаш знайсці літаральна на вуліцы! Хаця ад 10.05. — трывогі і неспакой.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

**1.** зялёная выспа на пустыні = 35 _ 2 _ 37 _ 38 _ 34 _;
**2.** між снеданнем і вячэрай = 23 _ 15 _ 14 _ 36 _;
**3.** элементарная адзінка інфармацыі = 3 _ 41 _ 29 _;
**4.** орган слыху = 44 _ 43 _ 42 _ 47 _;
**5.** бег каня наўскач = 7 _ 6 _ 17 _ 18 _ 19 _;
**6.** усходы азіміны, як першы зборнік „белавежцаў” = 9 _ 8 _ 4 _ 40 _;
**7.** акула або мянтуз = 48 _ 49 _ 32 _ 33 _;
**8.** водгалас = 30 _ 31 _ 12 _ 11 _;
**9.** верхняя частка сцябла з кветкамі, у якой... сук = 21 _ 20 _ 1 _ 25 _ 26 _ 24 _ 39 _ 45 _;
**10.** агароджа пераплеценая прутамі лазы = 22 _ 16 _ 13 _;
**11.** непацверджаная вестка = 46 _ 28 _ 27 _ 10 _ 5 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | | 4 | 5 |
| | | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | 13 | 14 | | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | | | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | | 41 | 42 |
| | | | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 16 нумара**

Падвода, кіно, сава, Кракаў, зруб, юра, Ева, Нітра, воз, туз, літр, конь, бюро.

Рашэнне: **Красавік з вадою, травень з травою**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.


З бабай Галяй і Русланай

# У палескай глыбінцы (84)

Баба Галя зусім не здзівілася, быццам усё раней у вадзе пабачыла. Яна выйшла са сваёй драўлянай хаты, схаванай у глыбі панадворка і прысела на лавачцы, засланай паласатым ходнікам. Куточак прыаздаблялі два букеты са свежых астраў у літровых слоіках з-пад агуркоў. Каля кветак стаяла яшчэ пляшка з-пад *Ігрыстага шампанскага*.

Маю ўвагу аднак прыкаваў непрыкметны прадмет на грудзях жанчыны. На выслужаным сарафане бабы Галі віднела аграфка, прышпіленая быццам для чыстага фасону. Але гэтая, здавалася б без значэння аграфка, выконвала ролю абярэгу перад шкодным, зайздросным вокам. У гэтым закутку Палесся амаль усе верылі ў злое вока, праклёны і паганыя месцы, якія каламуцілі розум, зводзілі ў небяспечныя пасткі і праглыналі жыўцом ахвяр.

У лясных Будніках, адкуль выцякаюць крыніцы Прыпяці, усё гэта было пад рукой і на месцы.

Прыехала пабачыць пачатак ракі, прыслухацца да аповедаў пра людзей, лес і балоты.

Мяне адразу накіравалі і завезлі да бабы Галі.

— Яна ўсё найлепш ведае! — казалі.

Спачатку я не ведала, што траплю да слаўнай на ўсю аколіцу вядункі і народнай лекаркі. Сама баба Галя словам не заікнулася пра свой дар, які ў яе сям'і перадавалі з пакалення ў пакаленне. Па сённяшні дзень думаю пра яе камуфляж. На Палессі не любяць быць у цэнтры ўвагі. Чуткая інтуіцыя і прыродная хітрасць людзей падказвае нешта адваротнае — лепш схавацца ў цяні, прыкінуцца непрыкметным і пазбаўленым значэння. Найбольшы талент у галіне камуфляжу праяўляюць вядуны і шаптухі. Усё гэта патрэбнае дзеля лекавога сеансу. Яны без лішніх слоў прачытаюць самыя ўтоеныя думкі і знойдуць адпаведны лек.

Баба Галя доўга і цярпліва паясняла мне пра лясныя ўрочышчы, лозы і прыткі, якія раней састаўлялі адзін арганізм, але ў выніку меліярацыі раздзялілі ўсё на дзве часткі ды накіравалі ваду ў два супрацьлеглыя бакі. Спачатку расказ здаваўся надзвычай каламутным, хаваў у сабе нешта балючае, быццам пад паверхняй слоў усё яшчэ пульсавала адкрытая, не загоеная рана. У ходзе размовы, што і раз я адкрывала новы воблік бабы Галі, каб у канцы, нечакана, пачуць з яе вуснаў замову ад злога вока.

Яшчэ ў той дзень буду ўзірацца ў мутныя тоні крыважэрнага «вока», дзе безупынна топяцца людзі — такую паганую славу мае лясное возера, якое ў Будніках называюць... Святое!



* * *

Падарожжа да крыніц Прыпяці спачатку здавалася простым. Пасля перасячэння мяжы ў Дарагуску трэба было павярнуць на поўнач, у напрамку Забужжа. Такі шлях, пазначаны жоўтым колерам, паказалі навігатар GPS і карта. Але спачатку забаставала машына. Матор ніяк не хацеў пераключыцца на ўкраінскі газ, якім заправілі мы машыну на другім баку мяжы. Шафёры аўтафуры, да якіх мы звярнуліся па дапамогу, падказалі свае *штучкі*, і сапраўды, пасля аўто зрушыла з месца. Не менш падазрона выглядаў свежы і гладкі як шклянка асфальт, які прывітаў нас за паваротам. Па такой дарозе мы маглі б дабрацца на месца ў дваццаць хвілін! Усё гэтае шчасце раптоўна абарвалася пасля сямі кіламетраў. Новае асфальтнае палатно было пракладзена адно да сяла Рівнэ, з новым катэджамі памежных босаў. Далейшы адрэзак дарогі ў Гушчу быў яшчэ такі-сякі, значыць, дзіравы і выбоісты, але пасля было толькі горш. Невядома калі і дзе мы згубілі дзве з палавай гадзіны...

Не менш ускладняла падарожжа дэзарыентацыя. У той жа Гушчы не ведалі як нам пяясніць дарогу, толькі параілі ехаць у Забужжа і там пра ўсё дэталёва распытаць. Наша дарога ішла дакладна паўз польскай мяжы, часам прадзіраўся від на раку Буг. Адначасова, здавалася, што падарожнічаем у XIX стагоддзі. Дарога нагадвала паркавую алею або стары тракт, па якім найзручней перамяшчацца брычкай або дыліжансам. Мы былі вымушаны зменшыць хуткасць машыны якраз да тэмпа брычкі. Затое ўволю можна было насычацца прыгожасцю краявідаў. Дзесьці за Гушчай, па левым баку, распасціралася, быццам вялікая міска, балота па зарослым возеры. З другога боку цягнулася пласкагор'е.

На скрыжаванні дарог у Забужжы мы спынілі машыну. У дарозе нам падказалі шукаць пачатак Прыпяці ў Будніках. Якраз пра гэтае лясное сяло мы рашылі дапытацца ў дзяўчыны, якая ехала нам насупраць.

— Я вам не растлумачу, — адказала Руслана. — Давайце за мной! Я таксама еду ў Буднікі...

І вось інакш засвяціла сонца! Нават, выбоістая дарога, па якой суправаджала нас Руслана, здавалася не такой страшнай. Тым больш, бо жанчына заявіла проста да бабы Галі, якая была яе сваячкай, і прыняла без лішніх пытанняў...

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**






# XX Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XX Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XX Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2017 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2017 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.


ISSN 0546-1960 19